PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (1956) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 7 ЛІСТАПАДА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Андрэй Гаўрылюк, Ірына Лукша (Аўрора) і Юры Баена.*
**Фота А. Максімюка**

## З'езд карэспандэнтаў

24 кастрычніка гэтага года ў памяшканні нашай рэдакцыі прайшоў з'езд вонкавых супрацоўнікаў "Нівы". На сустрэчы, між іншым, закрануты былі наступныя пытанні: роля карэспандэнта ў выпрацоўцы кшталту тыднёвіка, фінансавы аспект працы супрацоўніка (крышку), мерытарычныя прапановы карэспандэнтаў наконт зместу "Нівы". Саміх карэспандэнтаў ды зацікаўленых сустрэчай асоб назбіралася два дзесяткі.

**Глабальна - які сэнс пісаць?**

Пасля прывітальнага слова галоўнага рэдактара "Нівы" можна было падумаць, што такога сэнсу наогул няма. Ганарар вонкаваму супрацоўніку "Нівы" за ягоную карэспандэнцыю складае найчасцей раўнацэннасць аднаго-двух бутляў піва - на папяросы ўжо неабавязкова хапае. І ў гэтым кантэксце самым здзіўляльным з'яўляецца факт, што "Ніва" мае ўсётакі пастаянных супрацоўнікаў. Мала гэтага, у мінулых гадах рэдакцыяй праводзіліся нават конкурсы на карэспандэнта года - часта ставаў ім Мікалай Панфілюк, які, бывала, дасылаў у "Ніву" на працягу года (52 выпускі тыднёвіка) па 170 допісаў!!!



*Мікалай Лук'янюк і Янка Целушэцкі.*

"Ніва" плаціць сваім карэспандэнтам слабаватыя ганарары - не надта лепей і штатным працаўнікам. Каб тыднёвік самаакупляўся, неабходна 40-50 тысяч тыражу пры цане 5-6 тысяч за паасобнік. У перыяд свайго найбольшага росквіту "Ніва" дасягала 8-10 тысяч тыражу.

**Пісаць трэба пра сваё асяроддзе**

- заявіў Андрэй Гаўрылюк з Ольштына. Падставай для пісання з'яўляецца факт - гэта Сакрат Яновіч. Кожны артыкул павінен несці перад усім інфармацыю. Недаравальнай з'яўляецца ўсякая ідэалогія і маралізатарства - яны абражаюць чытача, у якога свой розум і свае вывады ад прачытанага. Добрым прыкладам журналістыкі з'яўляюцца амерыканскія газеты. Пасля першага ці двух першых сказаў вядома ў чым справа. У нашым жа выпадку часта ірытуе "савецчына" - артыкул можна мерыць у кіламетрах, чытаць яго раз, другі ды так і невядома пра што ідзе аўтару.

**Грамадская ўспрымальнасць**

Вера Валкавыцкая выказала рэфлексію, што ў перыяд ейнай працы ў "Ніве" вялікай папулярнасцю карыстаўся "лёгкі" матэрыял - гумар, "Бабскія фокусы" ды гэтаму падобнае. Сказала таксама, што ў цяперашні момант "Ніва" радыкальна змяніла свой характар. Пераважае ў ёй палітыка ды каментарыі на актуальныя грамадскія справы - тэмы не надта ўспрымальныя чытачом старэйшага пакалення. У гэтым месцы і ўзнікла дыскусія, так сказаць, мерытарычнага характару. Перавага грамадска-палітычнай праблематыкі на старонках тыднёвіка абумоўлена не адно модай, ці ўпадабаннем новага рэдакцыйнага гурту - гэта перш за ўсё вынік новай сацыялагічнай сітуацыі, у якой апынулася прэса ў вольным грамадстве. Раней, не сакрэт, прэса жыла ў сімбіёзе з уладай ды кожная крытыка, калі яна той жа ўладай дапускалася на старонкі, была ў нейкай меры лякарствам на грамадскія праблемы - улада абавязкова займала афіцыйнае становішча ды такім ці іншым чынам рэагавала. Цяпер прэса не ў змозе выконваць такую ролю, паколькі няма ўжо згаданага сімбіёзу - роля прэсы зводзіцца сёння да лучнасці з чытачом і, так сказаць, стварэння грамадскага клімату. Вырашэннем канкрэтных праблем, ці яго адсутнасцю, займаюцца сёння паасобныя ўстановы выканаўчых органаў улады - прэса ўсяго выконвае ролю грамадскага кантралёра дзеянняў той жа ўлады, непасрэднага ўплыву на яе не маючы.

**Калі ідзе пра чытача...**

то перш за ўсё трэба заўважыць, што ён змяніўся. Сведчыць пра гэта адзін факт - тыраж тыднёвіка большменш абумоўлены станам навучання беларускай мовы на Беласточчыне. "Нівай", як і раней, карыстаюцца настаўнікі ў дыдактычных мэтах - гэта найважнейшы фактар, які падтрымлівае тыраж тыднёвіка ў цяперашні час. Рэдакцыі перш за ўсё трэба прыдбаць чытача сярод гэтага менавіта патэнцыялу - як гэта практычна нам удаецца, хай асудзяць чытачы. Рэдакцыя ў кожным выпадку да гэтага імкнецца. Залежнасць тут простая - чалавек у сярэдняй школе кшталтуе сваю асобу, пачынае крытычна думаць, абы-чым, значыць "дзеравеншчынай" і фальклорам, яго не

☞ *Працяг на стар. 4*

## ХТО ЗА ГЭТЫМ СТАІЦЬ?

17 кастрычніка г. г. сесія Гарадской рады ў Бельску перапыніла сваю працу. На сесіі выступіў экс-намеснік старшыні Гарадской рады Ян Радкевіч ды назваў радных Васіля Ляшчынскага і Арсенія Артысевіча палякаедамі. Закіды ў нацыяналізме накіраваў ён таксама ў бок дырэктара Бельскага дома культуры Сяргея Лукашука. Беларускія радныя дайшлі да вываду, што ў такой атмасферы нельга працягваць пасяджэнне Рады.

**— БЫЛО ГЭТА ТАК,**

— гаворыць дырэктар Пачатковай школы н-р 3 Васіль Ляшчынскі, — сесія пачалася а 9 гадзіне раніцы. Пасля справаздачы з дзейнасці Гарадской управы пачаліся інтэрпеляцыі. Голас узяў радны Ян Радкевіч і паставіў наступныя запыты:

а/ дырэктару Бельскага дома культуры Сяргею Лукашуку: чаму ён прапагандуе толькі беларускую культуру? Доказам гэтага — два беларускія калектывы („Васілёчкі" і „Маланка") і беларускія мерапрыемствы;

б/ дырэктару Гарадской бібліятэкі: чаму ён стварыў у ёй прыватную мастацкую майстэрню і „робіць там сваю работу"?

в/ дырэктару Пачатковай школы н-р 3: чаму ён прымае на працу ў школе толькі беларусаў?

г/ радным Арсеню Артысевічу і Васілю Ляшчынскаму: чым яны кіраваліся, ставячы на мінулай сесіі прапанову вызваліць яго з функцыі намесніка старшыні Рады? Калі не атрымае адказу, будзе лічыць іх палякаедамі.

— Далей, — кажа Арсеній Артысевіч, — голас узяў С. Лукашук. Тлумачыў ён, што да палавіны 1993 года было ўсяго 95 мерапрыемстваў, і толькі 7 з іх мела беларускі характар. Лукашук вельмі ўсхваляваўся і пакінуў залу. Тады старшыня Рады Багдан Заваліх абвясціў перапынак „на папяросу". Падчас перапынку мы дагаварыліся, што не пойдзем на сесію, бо вее там шавінізмам. Бурмістр Казімеж Ляшчынскі і старшыня Рады запрасілі нас на размову, дзе пасля бурлівых спрэчак вырашылі адтэрмінаваць сесію.

**— МЫ АБУРАНЫЯ**

фактам, што ніхто з Грамадзянскага камітэта (Komitetu Obywatelskiego) не аднёсся крытычна да недарэчных закідаў Радкевіча. У час выступлення панавала цішыня. Склалася ўражанне, быццам бы Радкевіч гаворыць ад імя ўсіх салідарнікаў. Дзіўна, што агульнавядомыя справы Радкевіч прадстаўляе так, як хацеў бы ён бачыць, а не так, як яны маюцца ў сапраўднасці. Магчыма, што нехта за гэтым стаіць! — гавораць беларускія

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Partia Pawlaka wzięła wiatr w żagle... W PSL ciąg do władzy jest odwrotnie proporcjonalny do zasobów kadrowych tej partii. Na razie scenariusz pisany przez PSL jest dość przejrzysty. Dostać wszystko co się da... bo przecież trzeba zaspokoić apetyty działaczy.*
*(Polityka, nr 42)*

**Вельмі слушна! Шкада толькі, што Каргуль выехаў у Амерыку, было б весялей.**

* * *

*W cenie 1 butelki wódki 80 procent to podatki.*
*(Rzeczpospolita — Magazyn, nr 11)*

**Прадпрымальнікі, якіх фабрычкі працуюць на ўскраінах Белавежскай пушчы, прадаюць свой тавар намнога танней, а працэнтаў у іх вырабах намнога больш... Свае хлопцы.**

* * *

*W czasach Breżniewa i Czernienki ci, którzy handlowali z ZSRR, nie musieli mieć nawet wielkich kwalifikacji — przede wszystkim wymagana była zdrowa wątroba. Za Gorbaczowa wszystko się zmieniło, na bankietach demonstracyjnie serwowano soki owocowe, najwyżej wino. Obecnie wszystko wróciło do normy. Spożycie alkoholu przekroczyło rekordowy poziom z 1984 r. i dalej rośnie. Pije się wszędzie...*

**Гэтак у Расіі, а цяпер на гнілым Захадзе:**

*W Danii rzadko widzi się pijanych, mało kto jest jednak zupełnie trzeźwy. W Niemczech picie piwa jest tak normalne jak wody mineralnej. We Francji pijanych co krok spotyka się na ulicy. We Włoszech wino jest narodowym napojem. Nie towarzyszy mu żadna aura „grzechu". Piją je nawet kilkuletnie dzieci. Żony dołączają butelki wina jako dodatek do kanapek dla mężów idących do pracy.*
*(Rzeczpospolita — Magazyn, nr 11)*

**Са свайго боку раім: халасцякам жаніцца з італьянкамі, хворым на вантробу не ехаць у Расію, а зусім цвярозым — у Данію.**

* * *

*W Białymstoku powstał oddział Seksualnego Ruchu Oporu, którego założycielem jest redaktor Karol Jerzy Tartak.*
*(Gazeta Współczesna, nr 196)*

**Ежы Тартак працуе журналістам у рэдакцыі „Кур'ера Падляскага", насупраць нашай рэдакцыі.**

* * *

***Да БССР Масква не ставілася сур'ёзна, рэспубліка нават была абвешчана на бальшавіцкай партыйнай сходцы, а не на з'ездзе Саветаў, як было прынята ў той час.***
***(Літаратура і мастацтва, н-р 38)***

**Страшэнна памыляецца кожны, хто думае, што сённяшнюю незалежную Рэспубліку Беларусь Масква трактуе сур'ёзна, а прэм'ер-міністра Кебіча — не інакш, як менскага губернатара.**

* * *

*Żołnierze chorwaccy przymocowali do jeńców serbo-bośniackich ładunki wybuchowe, wysłali w kierunku nieprzyjaciela, a następnie detonowali zdalnie przy użyciu urządzenia elektronicznego. Notatka o chorwackich „żywych torpedach" potwierdza przenikliwość naszej dotychczasowej polityki zagranicznej, która, jak pamiętamy, była w kwestii jugosłowiańskiej od początku zdecydowanie antyserbska i prochorwacka. Serbowie byli zawsze wandalami, podczas gdy Chorwaci reprezentowali sprawiedliwe dążenia niepodległościowe, popierane przez Stolicę Apostolską.*
***(Polityka, nr 42)***

* * *

*Od stycznia do czerwca b.r. w Bielskim Domu Kultury na 95 imprez siedem miało charakter białoruski. Radny Jan Radkiewicz zarzucił dyrektorowi Bielskiego Domu Kultury Sergiuszowi Łukaszukowi, że działalność tej placówki całkowicie podporządkował społeczności białoruskiej. Podczas sesji Rady Miejskiej zarzucano mu nacjonalizm.*
*(Gazeta Wspolczesna, nr 203)*

**На нашу думку, Сяргей Лукашук зрабіў, аднак, агромную памылку. Ніхто не закінуў бы яму нацыяналізму, калі б на 95 імпрэзаў 48 мела беларускі характар.**

* * *

*Stała się rzecz niesłychana: po raz pierwszy od 1918 r. mamy Sejm w którym nie ma posłów reprezentujących wartości chrześcijańskie i narodowe.*
*(Ład, nr 42)*

**Пратэстуем! Тыднёвік „Лад", мякка кажучы, крыўдзіць 90% сённяшняга Сейма. Калі Вальдэк Паўляк, Алька Гжэськовяк ці наш Адам Ч. — не „narodowi chrześcijanie", тады заяўляем, што мы ўсе ў „Ніве" непітушчыя і некурачыя манахі і манашкі.**

* * *

*Biskupi oceniają sytuację powyborczą. Będziemy modlić się o duchowe moce dla nowowybranego parlamentu — powiedział biskup Miziołek.*
*(Rzeczpospolita, nr 242)*

**Ходзяць чуткі, што новыя прэм'ер-міністры і міністры вучацца катэхізмаў. Без такіх ведаў у палітыцы ані руш!**

* * *

*Od 20 października b.r. zostało uruchomione automatyczne połączenie telefoniczne z Ugandą.*
*(Gazeta Współczesna, nr 203)*

**З Угандай (гэта ў Афрыцы) спалучыцца зусім проста, але паспрабуй пазваніць з Беластока ў Нараўку ці Кляшчэлі! Хутчэй аўтобусам тады паехаць і вярнуцца назад, чым дагаварыцца па тэлефоне.**

* * *

*W Rutkach oprócz katolików i Żydów zamieszkiwał jeden prawosławny, który nie chcąc zasilić kasy państwa polskiego nie kupował papierosów i wódki.*
*(Kurier Podlaski, nr 201)*

**„Кур'ер" не ад сённяшняга дня прапагандуе тэзіс, што толькі той, хто купляе польскую гарэлку і папяросы можа стаць польскім патрыётам. Але цяпер, калі такое змяшчае ў друку пан пасол, мусіць тэзіс гэты стане дзяржаўнай дактрынай?**

# З мінулага тыдня

**Візіт дзяржсакратара ЗША Уорэна Хрыстофера** ў Менску адбыўся — інакш, чым у Кіеве — без недаразуменняў. Шэф амерыканскай дыпламатыі пачуў ад сваіх суразмоўцаў: старшыні Вярхоўнага Савета **Станіслава Шушкевіча**, прэм'ер-міністра **Вячаслава Кебіча** і міністра замежных спраў **Пятра Краўчанкі** запэўненне, што атамная зброя неўзабаве будзе выведзена з тэрыторыі Беларусі. Станіслаў Шушкевіч пасля размоў з Хрыстоферам заявіў, што існуюць вельмі добрыя перспектывы для беларуска-расейскага пагаднення ў справе перадачы атамнай зброі Расеі ўжо да канца 1994 года. У Беларусі знаходзяцца 72 ядзерныя ракеты.

**Адбыліся інаўгурацыйныя пасяджэнні 24 пастаянных сеймавых камісій**, на якіх былі выбраныя старшыні і іх намеснікі. **Камісію нацыянальных і этнічных меншасцяў** узначаліў **Яцэк Курань** (Дэмакратычная унія), а замяшчаць яго будуць: **Генрык Кроль** (Нямецкая меншасць), **Ежы Штэліга** (СЛД) і **Генрык Богдан** (ПСЛ). З беластоцкіх парламентарыяў у Камісіі працаваць будуць: **Артур Смулко** (Унія працы) і **Сяргей Плева** (СЛД).

**Сейм выбраў новых членаў Трыбунала Стану.** У складзе самай высокай юрыдычнай установы апынуўся прафесар **Эўгеніюш Смактуновіч** — загадчык Кафедры адміністрацыйнага права на Юрыдычным факультэце Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.

У Сейнах (Сувальскае ваяводства) выйшаў першы нумар штоквартальніка **„Krasnogruda"**, прысвечанага пытанням народаў і культур т. зв. малых айчын Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Часопіс выдае мясцовы Фонд „Паграніччa". Загаловак штоквартальніка выводзіцца з назвы вёскі Краснагруда, у якой знаходзіцца сямейны маёнтак Чэслава Мілаша. Па жаданню паэта і яго брата двор быў перададзены Фонду „Паграніччa". У часопіс пісаць будуць знаўцы праблемы з усёй Еўропы.

**Падчас 62 сесіі Інтэрпола**, якая адбылася на востраве Аруба (Нідэрландскія Антыльскія астравы), чарговым членам гэтай міжнароднай паліцэйскай арганізацыі стала Беларусь. Гэты факт дае беларускай міліцыі юрыдычныя асновы для вядзення міжнародных дзеянняў.

**Амаль 300 чалавек**, якія атрымоўваюць пенсіі з Беларусі, ад красавіка чакаюць сваіх грошай. У такой сітуацыі ЗУС выплачвае пенсіянерам толькі квартальныя задаткі. З другога квартала гэтага года Польшча не атрымала ад Беларусі грошай. У гэтай справе патрэбны рашэнні Вярхоўнага Савета РБ.

**На Міжнародным асеннім кірмашы спажывецкіх артыкулаў „Domexpo'93" у Познані** залатыя медалі атрымалі тэлевізар TC 460 P, які выпускае Беластоцкае электроннае прадпрыемства „Biazet" і электрычны абагравальнік вады „Vortex 3" прадукцыі беластоцкай фірмы „Biawar Ltd".

**У Бельску-Падляшскім адбылася другая частка XXXV сесіі Гарадской рады** ***(аб першай яе частцы пішам на 1 і 4 старонках).*** Пасяджэнне прайшло бесканфліктна, у атмасферы заклапочанасці праблемамі горада.

Ужо другі раз у гэтым месяцы **падаражалі ў Беларусі алкагольныя напіткі.** У дзяржаўных магазінах паўлітровая бутэлька „Сталічнай" або „Пшанічнай" каштуе зараз 3.180 рублёў. „Русская" каштуе цяпер 3.030, а „Белая Русь" — 3.960 рублёў. Павышэнне цэн на 50 працэнтаў было выклікана неабходнасцю кампенсацыі коштаў прадукцыі тавараў шырокага ўжытку.

**У Пянтніцы** (Ломжынскае ваяводства) невядомыя злачынцы ўзарвалі два выбухныя зарады на панадворку Вальдэмара Мархлеўскага. У выніку былі знішчаны дзверы, вокны і абсталяванне ды загінуў сабака. Мяркуецца, што ўзрыўчатку на сядзібу прадпрымальніка ўкінулі грамадзяне Беларусі, якім ён быў вінаваты грошы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"





# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### БНФ: ПЯЦЬ ГОД ПАСЛЯ...

Беларускі народны фронт "Адраджэнне" адзначыў 5-ю гадавіну свайго існавання. На вечарыне, наладжанай з гэтай нагоды, лідэр БНФ Зянон Пазьняк падкрэсліў, што фронт быў і застанецца антыкамуністычным, цэнтрысцкім і народніцкім, і заявіў, што аптымістычна глядзіць на магчымыя вынікі будучых парламенцкіх выбараў, асабліва ў Магілёве, Полацку, Навапо.лацку і Брэсце. Тым больш, што ў змаганні за дэмакратычныя пераўтварэнні фронт цяпер не адзінокі. У канферэнцыі некамуністычных і антыімперскіх сіл, якая адбылася ў сярэдзіне кастрычніка пад эгідай БНФ, прынялі ўдзел 36 партый, рухаў, прафсаюзаў і грамадскіх арганізацый. Згуртаванне апазіцыі можа аказаць пэўны ціск на парламенцкую большасць.

### ЗРАЗУМЕЛІ ЦЯПЕР, ЧАМУ З ВЫРАЮ ЖУРАЎЛІ НА ПАЛЕССЕ ЛЯЦЯЦЬ

Па меры адмежавання рэспублік былога СССР расце колькасць беларусаў, якія б жадалі вярнуцца на родную зямельку. Аднак на дадзены момант усё яшчэ адсутнічае на Беларусі заканадаўства аб правах бежанцаў і перасяленцаў. Праект гэтага закона падрыхтаваны службай міграцыі, але зноў не ўнесены на абмеркаванне чарговай сесіі Вярхоўнага Савета. Магчыма, справа кранецца з месца пасля звароту членаў Рады і сяброў Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" да Вярхоўнага Савета з прапановай тэрмінова разгледзець хаця б часовае палажэнне аб ільготах для беларусаў-перасяленцаў.

### БЕРСАН НА ШЫЛЬДАЧЦЫ, А ГЛЕБ МЕНСКІ Ў ПАМЯЦІ

Даўным-даўно не існуе ў беларускай сталіцы вуліц Свярдлова, Мяснікова, Берсана, Валадарскага і Урыцкага, але новыя іх назвы -- Ластоўскага, Станкевіча, князя Глеба Менскага і іншыя пакуль застаюцца толькі на паперы. Прычына даволі трывіяльная -- адсутнасць фінансаў. Трэба замяніць каля 150 шыльдаў, а кошт кожнай складае ад 15 да 20 тысяч рублёў. Але ж нават, калі б знайшоўся багаты спонсар, пытанне засталося б нявырашаным, бо прадпрыемства, якое выпускае шыльды закрылася, а адрас новага выканаўцы — невядомы.

### У. І. ЛЕНІН, НА ВЫХАД! СА СТАНЦЫІ МЕТРО.

Пакуль жыхароў Менска і многіх гасцей сталіцы, мякка кажучы, здзіўляюць атрыбуты станцыі метро "Плошча Незалежнасці" (раней -- "Плошча Леніна") і вядзецца размова аб выдаленні з яе помніка стоду камуністычнай эпохі, для прыхільнікаў яго паміраючых ідэй -- удзельнікаў Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць -- імя Леніна застаецца святым. Падчас пікетавання расейскага пасольства яны перадалі пратэст прэзідэнту Ельцыну з нагоды намечанай ліквідацыі маўзалея У. І. Леніна ў Маскве. Выступаючы ад імя беларускай грамадскасці, яны таксама патрабуюць скасаваць забарону на выданне камуністычнай "Праўды" і іншых газет, якія, аказваецца, "карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў Рэспубліцы Беларусь, таму што праўдзіва інфармуюць чытачоў усяго свету".

### ВУЧАЦЦА ШЛЯХЕЦТВУ СУР'ЁЗНЫМ ЧЫНАМ

На поўны голас заяўляе аб сабе беларуская шляхта. Згуртаваннем беларускай шляхты падрыхтаваны да выхаду ў свет першы нумар спецыялізаванага часопіса "Годнасць", а тэлегледачы змогуць паглядзець першую дакументальную стужку пра беларускую шляхту "Самотная альба вершніка". А 1 лістапада Згуртаванне адкрывае шляхецкі універсітэт культуры. Пэўна, праходзіць навучанне ў ім змогуць толькі прадстаўнікі "блакітнай крыві".

### ХУТКА Ў НАС АДКЛЮЧАЦЬ ГАЗ

Нават "кіты" беларускай прамысловасці не ў стане разлічыцца за спажыванне газу з расейскімі пастаўшчыкамі. На сённяшні дзень сума запазычанасці склала 7,5 мільярда расейскіх рублёў (каля 2 мільёнаў амерыканскіх долараў). Адключэнне падачы газу пагражае трактарнаму заводу, "Гарызонту", камвольнаму камбінату, заводу ацяпляльнага абсталявання і многім іншым прадпрыемствам у Беларусі.

### ІНФАРМАЦЫЙНЫ ГОЛАД

У Беларусі заканчваецца тэрмін падпіскі на перыядычныя выданні. Ужо ў гэтым годзе з-за вялікага скачка цэн большасць чытачоў аддавала перавагу бібліятэчным экземплярам газет і часопісаў -- са студзеня па верасень газетную залу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі наведала на дзве з паловай тысячы чалавек больш, чым у мінулым годзе.

Але ж у наступным годзе і іх чакае расчараванне. Друкаваных выданняў іншых рэспублік значна паменшае -- застанецца толькі невялікая колькасць расейскіх, украінскіх і прыбалтыйскіх. Інфармацыя з іншых рэгіёнаў блізкага замежжа паступаць не будзе. А выданняў далёкага замежжа -- замест 100 застанецца толькі 30.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

## (3)

### СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

На пачатак крыху гісторыі. Становішча сельскай гаспадаркі, напрыклад, другой паловы XVI стагоддзя, паказваюць вынікі першай і другой люстрацый каралеўшчын Падляскага ваяводства, праведзеных у 1570 і 1576 гадах. З гэтых найстарэйшых па апісанню сельскай гаспадаркі дакументаў вынікае, што амаль усе вёскі Гайнаўскай акругі ўваходзілі ў лік каралеўшчын, якія мелі ўсё ж розныя формы адміністрацыйна-гаспадарчай залежнасці. Так, напрыклад, сяляне Трасцянцкага вайтоўства (Трасцянка, Сацы і Бялкі) валодалі 2520 гектарамі „подлых грунтаў”. Налогі, якія яны пасрэдна плацілі ў розных формах у казну, складалі суму 548 польскіх злотых.

Жыхары мястэчка Нарва і прылягаючых да яго вёсак — Ванева, Адрынкі, Гайдукі, Макаўка і Крывец — валодалі 2503 гектарамі зямлі. З увагі на гарадскія прывілеі яны плацілі менш у казну налогаў — 205 польскіх злотых. Вёска Янова ўваходзіла ў склад вайтоўства Зыгмунтова (Кленікі), якое валодала 2862 гектарамі зямлі.

У залежнасці ад агульнадзяржаўных патрэб уводзіліся розныя формы налогаў. Плацілі іх у залежнасці ад колькасці зямлі ў форме грашовага чыншу, бочак аўса, вазоў сена, фурманкавага, пчалінага, жарнавога, вырубнога, за хатнюю птушку, рыбалоўлю, рамяство, промыслы і г.д. Апрача гэтага войты, пісары і іншыя чыноўнікі ставілі ўласныя вымогі, якія станавіліся не пад сілу сялянам. Сведчыць аб гэтым сталая задоўжанасць сялян амаль усіх вёсак. Ужо ў 1576 годзе адміністратары скардзіліся на ўпартасць мясцовых жыхароў і адначасова падкрэслівалі і іх цяжкое матэрыяльнае становішча.

Дадатковай цяжкасцю для сялян была выкупка памешчыцка-царкоўных земляў, „якія даваліся за заслугі” ў XVII і XVIII стагоддзях, дзяржаўных лясоў, іх раскарчоўка і сплата даўгоў за атрыманыя надзелы. Так, напрыклад, сяляне з Сакоў у 1864 годзе выкупілі ў памешчыцы Караліны Крынскай 195 дзесяцін зямлі і сенажацяў за 1256 рублёў. Таварыства сялян, між іншым з Градочна і Ляхоў, выкупіла 174 гектары памешчыцкай зямлі. Сплаты даўгоў пазбаўлялі сялян магчымасці рабіць капіталаўкладанні ў сельскую гаспадарку. Не асушаліся балоты, не купляліся новыя прылады працы, не праводзіліся лесапасадкі. На вельмі нізкім узроўні заставалася апрацоўка зямлі. Прымяняліся прымітыўныя прылады: падляшская саха з жалезным наканечнікам, барана-валакуша або пляцёнка, серп, цэп і іншыя. Конныя малацілкі з'явіліся тут у другой палове XIX стагоддзя, спачатку ў памешчыцкіх маёнтках, а потым і ў багатых сялян.

Яшчэ ў 1955 годзе ў Анцутах, Бялках, Ваневе, Гарадзіску, Кавеле, Кутавой, Прыбудках, Рыбаках і Янове існавала трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі (ворыўныя землі дзяліліся на тры часткі — пад азімыя, яравыя культуры і папары). Характэрна, што сяляне надта прывыклі да гэтай формы гаспадарання. Яны надалей лічаць, што трохпольная сістэма садзейнічае высокім ураджаям, асабліва зернавых культур, што ворыва патрабуе „адпачынку” (папараў). Утрымліваецца гэтая сістэма ў Ласінцы і навакольных вёсках.

У Нараўскай гміне — 15400 гектараў ворнай зямлі, 4700 га лугоў і амаль тры тысячы гектараў пашы. Лясы займаюць тут плошчу ў сем тысяч гектараў. Сярод ворнай зямлі выступаюць глебы наступных груп: клас III — 280 га, клас IV — больш 2500 га, клас V — 2900 га, клас VI — каля 1900 га і клас VI Rz (пад пасадку лесу) — 560 га. Сярод зялёных угоддзяў: клас III — 150 га, клас IV і клас V — па тры тысячы гектараў, клас — VI — 1000 га. Зялёным ўжыткі складаюць значную частку зямельных угоддзяў у ваколіцах Нарвы, Трасцянкі і Тынявічаў Вялікіх. Даволі вялікія плошчы няўгоддзяў выступаюць у наваколлі Ванева. Дагэтуль меліярацыя праведзена на 4,5 тыс. га зямельных угоддзяў. Асталося меліяраваць яшчэ сама менш 3600 гектараў.

Прыватныя гаспадаркі карыстаюцца, між іншым, амаль 5,5 тыс. гектарамі ворнай зямлі ды 5,6 тыс. га лугоў і пашаў. Сельскагаспадарчыя прадукцыйныя спулдзельні (калгасы) маюць у сваім уладанні 3,6 тыс. га ворнай зямлі ды лугоў і пашаў, а таксама 510 гектараў лесу.

### РАСЛІНАВОДСТВА

У Нараўскай гміне на збожжавыя культуры і бульбу прыпадае каля 94 прац. усіх пасеваў. Сярод усіх сельскагаспадарчых культур першае месца на пасяўной плошчы займае жыта, на долю якога прыходзіцца 1410 гектараў. Перавага жыта над іншымі культурамі тлумачыцца яго малой патрабавальнасцю да глеб і агратэхнікі, марозаўстойлівасцю, прызвычаенасцю мясцовага насельніцтва. Частыя неўраджаі ў мінулым, падчас якіх жыта ўсё ж лепш пераносіла засуху, чым іншыя збожжавыя культуры ды складала тады галоўны прадукт ежы, прымусілі насельніцтва аказваць гэтай культуры належную ўвагу. Вялікая канцэнтрацыя пасеваў жыта наглядаецца ў Трасцянцкай і Ванеўскай акругах. Неабходна адзначыць, што дзякуючы лепшай апрацоўцы зямлі ў апошнія гады ўраджайнасць жыта ўзрастае. Так, у 1992 годзе яна складала 24 цэнтнеры з гектара (для параўнання прыгадаю, што ў 1958 годзе сяляне збіралі 13 цэнтнераў з гектара; толькі ў тадышняй грамадзе Трасцянка былі значна вышэйшыя ўраджаі — ад 15 да 18 цэнтнераў з гектара).

Важнай збожжавай культурай у Нараўскай гміне з'яўляецца яравая пшаніца (пасевы складаюць 725 гектараў). Сеюць яе жыхары, між іншым, Ласінкі і Нарвы ды суседніх вёсак. У апошнія гады існуе імкненне да павелічэння пасеваў пшаніцы з увагі на яе рэнтабельнасць. Сярэдняя ўраджайнасць яе з аднаго гектара склала ў 1992 годзе 26 цэнтнераў.

☞ *Працяг на стар. 10*

# ХРАБАЛЫ

Вёска знаходзіцца на шляху з Бельска ў Беласток, каля рэчкі Арлянкі. Тут ад шашы адыходзяць дарогі ў Райск і Страблю. Храбалы — невялікая вёска ў Бельскай гміне, але ёсць тут школа, асяродак здароўя, ветэрынарныйны пункт, пошта, крама, „злеўня” малака, пункт ГС ды прыватны аўтарамонтны варштат. Пэўна з увагі на карыснае размяшчэнне мясцовасці так многа тут паслуговых аб'ектаў.

Храбалы ў гістарычных крыніцах упамінаюцца ўжо ў 1536 годзе пад назвай „Грабалы”. Чаму так называюцца? У даведніку пра мясцовасці ўсходняй Беласточчыны Міхал Кандрацюк назву выводзіць ад роду Грабульскіх, аднак без абгрунтавання. Выходзіць на тое, што назва мае свой радавод у даўняй мінуўшчыне і таму яна даволі загадкавая. Непадалёк вёскі ў лесе ёсць урочышча „Крыніца”, дзе даўным-даўно (людзі не памятаюць, але вядома з легенды) аб'явіўся абраз Божай Маці. Свайго часу ўласнік блізкага маёнтка ў Сталавачы Голдак рашыў цудатворную ікону з Храбалоў перавезці да сябе. Па дарозе, у Райску на ўзгорку, коні, што везлі ікону, затрымаліся ў месцы. На просьбу жыхароў ікона асталася ў мясцовай царкве. У 1913 годзе ў святым месцы каля Храбалоў людзі пабудавалі царкоўку. Неўзабаве наступіла I сусветная вайна і мясцовыя жыхары мусілі падацца ў бежанства. Не ўсе яны вярнуліся. Тыя, што прыехалі назад, засталі сваю капліцу, але прыйшлося ім занава адбудоўваць сялібу. Нялёгка абжывалася пры тадышняй Польшчы. Улада не вельмі прыхільна адносілася да беларусаў і тутэйшыя сяляне змагаліся за свае правы. Тут дзейнічала ячэйка КПЗБ.

Пасля зноў была вайна і знішчэнні. Прыйшлося разабраць капліцу ў лесе. У Храбалах акупанты загадалі пабудаваць пастарунак паліцыі з разбураных цэркваў. Цяпер у гэтым будынку змяшчаецца асяродак здароўя і кватэра для лекараў. У канцы вайны сюдою праходзіў фронт і сялянам прыйшлося пакінуць сваю вёску, але хутка змаглі вярнуцца. У Польшчы змянілася ўлада. Жыццё нармавалася, Храбалы аднаўляліся, станавіліся важным грамадска-адміністрацыйным асяродкам на Бельшчыне. Некаторы час была тут сядзіба Грамадскай рады нарадовай.

Цяпер гэтая вёска даволі заможная. Тут і водапravод, і асфальтаваная вуліца, амаль у кожнай хаце — тэлефон. У Храбалах больш сарака дамоў і каля 150 жыхароў. Не забылі людзі і пра святое месца ў Крыніцы, пабудавалі ў васьмідзесятых гадах сваімі сіламі капліцу. Два разы ў год на св. Івана (вясной і восенню) адбываюцца ў ёй багаслужбы. Многія знакамітыя людзі ўзгадваліся ў Храбалах. Родам адсюль навуковец Варшаўскага універсітэта, даследчык беларускага фальклору, мовы і літаратуры — Мікалай Врублеўскі. З Храбалоў паходзяць педагогі, напрыклад Яўген Хількевіч (дырэктар школы ў Пасынках) і Валянцін Гліва (дырэктар школы ў Аўгустове), лекары ды іншыя выпускнікі вышэйшых школ. Наогул жыхары тут дбайныя (няма бадай п'яніцаў) і старанлівыя. Гаспадаркі дагледжаныя, дамы прыгожа аздобленыя і памаляваныя. Прыемна сябе адчуваеш, наведаўшы такую сімпатычную вёску.

**В. ХРЫСЦІНІН**

# СТАРЭЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ЛЮДЗІ

Нашыя вёскі старэюць з года ў год; старэюць не толькі людзі, старэюць таксама будынкі. Напрыклад, у Заблудаўскай гміне амаль у кожнай вёсцы асталіся толькі старыя людзі — самыя пенсіянеры. Пражылі яны ўжо свой век і спакойна дажываюць да свайго канца. Разам з імі старэюць іх дамы, хлявы, пуні. Старым людзям патрэбны лекар, які выпіша рэцэпт на лякарства, каб падтрымаць іх здароўе. Гэтаксама ў кожнай вёсцы ёсць многа „хворых будынкаў”, якія патрабуюць рамонту. Кожны гаспадар гэта бачыць і ведае, якія рамонты трэба правесці ў яго будынках і лічыць, колькі яны будуць каштаваць. Калі праўдзе правізорны падлік коштаў, адхочацца яму рамонту і ўсё астанецца па-старому. Кожны селянін гаворыць, што да смерці як-небудзь пражыве без рамонту будынкаў, а каму будзе трэба, хай той і рамантуе. Маладыя гаспадары таксама да рамонтаў не рвуцца, бо не маюць грошай на такія выдаткі. Пенсіянерам не хапае грошай на жыццё і лякарствы, а гаспадар, калі заарэ, пасее і збярэ нанятымі машынамі, мусіць да гэтага далажыць, а грошай няма адкуль узяць. Пакуль нашыя ўлады не зоймуцца сельскай гаспадаркай, датуль наша краіна будзе беднай. Прымаўка гаворыць, што калі гаспадар багаты, то і краіна багатая, бо прадуктаў не трэба прывозіць з-за граніцы і дарма аддаваць на іх валюту, якой і так мала маем. Наш новы парламент і новы ўрад павінны падумаць, як дапамагчы нашым гаспадарам-хлебаробам. Калі сельская гаспадарка стане рэнтабельнай, тады і моладзь прыйдзе на вёску, паставіць гаспадаркі на ногі, а валюта астанецца ў краіне.

**МІКАЛАЙ ПУЧКО**

# ВЕСТКІ З ГАЙНАЎКІ

У ліквідаванай крамы „Далікатэсы-Порта” па вуліцы 3 Мая паявіўся новы ўладальнік. Што раней „Далікатэсы” былі спажывецкай крамай, можам ужо толькі ўспамінаць. Цяпер тут „Новы-собэкс”. Можна купіць мэблю, паштоўкі, школьныя прылады, парашкі і іншыя прамысловыя тавары. А ўсё аформлена прыгожа і багата тут, як у казцы.

У ліквідаванай мясной краме, у тым жа комплексе будынкаў адкрылі краму з запаснымі часткамі для аўтамашын і матацыклаў.

На базары прадаўцоў з-за мяжы раз болей, раз меней. Зніклі жабруючыя румыны. А ў таргавых радах (галях) на другім паверсе адкрылі новую краму з вопраткай для дзяцей і дарослых.

**АЎРОРА**

 

## З'езд карэспандэнтаў

Працяг са стар. 1

задаволіш. Яму патрэбны інтэлігентны матэрыял, без павучання ў кожным выпадку. Малады чалавек у сярэдняй школе, калі "Ніва" мае яго ўвогуле нечым зацікавіць, мае права спадзявацца, што знойдзе ў ёй матэрыял грамадска-палітычнага характару. Калі ідзе пра старэйшае пакаленне, то найлепш гэта выказаў Мікалай Лук'янюк - я заўсёды пісаў пра вёску ды пра яе пісаць буду надалей. Пра палітыку і гісторыю пішуце вы, маладыя. Вось і тая сярэдзіна для "Нівы", калі тыднёвік мае служыць усім пакаленням беларусаў тут.

**Калі ідзе пра будучыню...**

то карэспандэнты заявілі некалькі надзвычайных прапаноў. Найважнейшая з іх выйшла ад Юрыя Баены. Варта падумаць, сказаў ён, над нейкім цыклам матэрыялаў пра будучы воблік Беласточчыны. Няважна, гаварыў Ю. Баена, ці будзе гэта мець нейкі ўплыў на той будучы рэальны кшталт нашага рэгіёна, але ў кожнага з нас ёсць нейкая ўява гэтай будучыні. Роля ж газеты якраз і заключаецца ў тым, каб уяву такую фармаваць. Буду нават - дадаў яшчэ Ю. Баена (тут "Ніва" пакланяецца ліцэістам) - прапанаваць такую тэму на матуральныя экзамены.

**Некалькі плётак**

Я ў шоку - сказаў С. Яновіч, калі гутарка пайшла пра цывілізацыйныя змены ў грамадстве - чакае нас афрыканізацыя. Каланіяльны Беласток убярэ ў сябе ўсё жыццяздольнае - сталіца, а навокал пустыня. Алесь Барскі пісаў калісьці, што марыць, каб басяком ісці за плугам. Прыязджай, кабылка і плуг чакаюць - адпісаў яму Дзядзька Квас.

**АЛІК МАКСІМЮК**

## ХТО ЗА ГЭТЫМ СТАІЦЬ?

Працяг са стар. 1

радныя В. Ляшчынскі, А. Артысевіч і А. Божка.

**ПАЛЯКАЕДЫ І ШАВІНІСТЫ**

— Так, пацвярджаю што назваў Артысевіча і Ляшчынскага палякаедамі і шавіністамі. Буду стаяць пры гэтым, пакуль не скажуць, якія яны ставяць мне закіды. „Nie ustąpię, padnę trupem", — сцвярджае нервова Ян Радкевіч, былы намеснік старшыні ГР, былы аковец, год нараджэння 1926. — Я змагаюся ад пачатку. Хацеў, каб у Бельскім доме культуры было і месца польскаму калектыву. Лукашук прапагандуе толькі беларускую культуру. Пытаюся, што з польскім грамадствам?!

**— ХАЙ ЧЫТАЧЫ „НІВЫ" ВЕДАЮЦЬ,**

— прадаўжае ўсхваляваны радны Ян Радкевіч, — што я нарадзіўся ў вёсцы Налогі на Бельшчыне. Там каталікі і праваслаўныя жывуць у згодзе. Калі святкуюць каталікі, ніхто з праваслаўных не возіць гною, а калі святкуюць праваслаўныя, разам з імі святкуюць і каталікі. Я рады, што ў Бельску ёсць тры касцёлы і тры цэрквы. Гэта я запрапанаваў павесіць у зале пасяджэнняў два крыжы: каталіцкі і праваслаўны. Пытаюся, які я нацыяналіст?

**Я — САМ**

Далей Ян Радкевіч пачаў жаліцца на салідарнікаў:

— Выкінулі мяне з „ Салідарнасці" — крычыць. Іх не абыходзіць Бельск. Вядуць толькі розыгрышы. Я ад іх адмежаваўся, „najeżdżałem na łotrów". Вось і змовіліся і даказалі сваё. Гэта дзеля таго „by mnie uciąć łeb". Многія гавораць, што нехта за мной стаіць. Адказваю: я — сам. Я раблю ўсё згодна з сумленнем. Памыліўся ў адносінах да аднаго чалавека. Аднаго поўнасцю пакрыўдзіў, другога — у палавіне, — прызнаецца плачучы радны, былы намеснік старшыні Гарадской рады.

Багдан Заваліх, старшыня ГР паводзіны Радкевіча пракаментаваў у такі спосаб:

**— TO BYŁ WYBRYK JEDNOSTKOWY.**

Грамадзянскі камітэт поўнасцю адмяжоўваецца ад інтэрпеляцыі Радкевіча. Ніхто з Рады не выклікае нацыяналістычных настрояў. Няма ў нас падзелу на беларусаў, палякаў, украінцаў, яўрэяў. Не хочам, каб Бельск быў горадам неталерантнасці і нязгоды. Баюся толькі таго, што за Радкевічам нехта можа стаяць, — гаворыць старшыня ГР. — Не здзіўляюся, што беларусы пакінулі сесію, я на іх месцы зрабіў бы так сама, — дадае Багдан Заваліх.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**




**ШЧЫРАНЬКА ВАМ ДЗЯКУЮ**

за тое, што сёлета надрукавалі мае тры вершы: „Пружанскі шлях", „Кліч" і „Пружанскія коні". Чытачы, пэўна, хацелі б ведаць, чаму ў іх тая ж самая тэматыка. Вось таму, што мая маладосць прайшла менавіта ў Пружане — раённым горадзе над ракой Мухавец — у польскай гімназіі Адама Міцкевіча, якая ў 1939 годзе стала Беларускай школай нумар 1. У ёй усе ўрокі вяліся на рускай мове, за выключэннем беларускай літаратуры ды мовы. Настаўнікам гэтых прадметаў быў паэт Мікола Засім. Такім чынам „Ніва" зрабіла з мяне быццам бы другога пружанскага вершапісца. Хаця я і праваслаўны паляк, дык вось напісаў па-беларуску. Вясной 1945 года, будучы з польскай арміяй у пераможаным Берліне я напісаў верш па-нямецку, а пасля да бацькі ў савецкай ссылцы — расейскаю мовай. Цяпер я стаў і амерыканскім паэтам, а была гэта вось як. Вясной 1993 года папрасілі мяне прыняць удзел у міжнародным конкурсе амерыканскай паэзіі. Я напісаў на англійскай мове верш, які сярод тысячаў дасланых твораў журы памясціла пачаткова у 3% лепшых, а пасля ў дзесяці найлепшых, якія запісалі на музычную касету „Гук паэзіі". Лепшыя творы ўвайшлі ў зборнік „Break in the clouds".

Пружана для мяне — гэта „карані", а для ўсяго свету — санктуарый, месца культу. Ёсць там царква св. Аляксандра Неўскага, а ў ёй тры цудоўныя іконы: адна плакала (і я гэта бачыў), другая — не згарэла ў пажары, а трэцяя — абнавілася. У трыццатыя гады ў Пружану ішлі працэсіі, між іншым з Кляшчэль прыйшоў святар Уладзімір Кудраўцаў, які ў сане ігумена пахаваны ў Жыровіцкім манастыры. Карані падляшскіх цэркваў ішлі з Холма, Брэста ды Пружаны. У ёй цяпер адзін толькі храм, а ў раёне іх бязбожнікі або разабралі, або падпалілі. Пішуць, што ў Грэцыі, якая мае столькі ж менш-больш жыхароў колькі Беларусь, ёсць 897 кляштараў („Za i Przeciw" 1988, nr 33, s.10), а на ўсёй Заходняй Беларусі — амаль адны Жыровічы. У Пружану трэба ездзіць з цікавасцю, паклонам ды салідарнасцю, а прывозіць сабе ды ўсёй Беласточчыне Божую ласку, а можа і аздараўленне цела. Пружанскі хор у 1992 г. здабыў дзве ўзнагароды ў Гайнаўцы. Белавежа ды Нараўка калісьці былі ў межах Пружанскага павета (раёна).

**С. К. МІХАЛЕЎСКІ**




**"ШЛЯХ ДА СМЕРЦІ"**

У 38 нумары "Нівы" ад 19 верасня 1993 года ў артыкуле Яна Максімюка "Шлях да смерці" прадстаўлена трагічная гісторыя атрада "Бурага". Аўтар прасіў тады, што калі хтосьці з чытачоў будзе ў змозе дадаць нешта да напісанага, нахай паведаміць рэдакцыю. Вось і пішу вам.

Я нарадзіўся ў студзені 1946 года ў Чыжах. Было мне тыдзень, можа больш, калі солтыс вызначыў майго бацьку ехаць па дровы для гміны ў Орлі. Добра сталася, што бацька не паехаў тады, бо раней выканаў свой абавязковы "шарварк", аб чым фармальна даказаў уладам. З Чыжоў некалькі гаспадароў паехалі тады падводамі па дровы ў лясніцтва Лозіцы. Там замест дроў нечакана давялося ім транспартаваць войска. Толькі аднаму Васілю Лукашуку, які зразумеў, што гэта ёсць банда, цудам удалося кінуць сваю падводу і ўцячы проста пад кулямі бандыцкіх чэргаў з аўтаматаў і асцярожна вярнуцца ў сваю родную вёску. Факт застаецца фактам і сапраўды гэта была банда, калі стралялі да ўцякаючага фурмана. На жаль, іншыя гаспадары ніколі не вярнуліся, як: Іван Тарасюк, Фёдар Лукашук і Іван Якімюк. Ніхто ў нас па сённяшні дзень не ведае нават, дзе іх магілы.

**Я. М.**
*(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

## ПІСЬМЫ З ФЛАРЫДЫ

## (2)

Гэйнэсвіл -- гэта амерыканская правінцыя. Мястэчка, пад сто тысячаў жыхароў. Адшукаеш яго толькі на дакладнейшых мапах. Існуе тут універсітэт, аж з трыццацю пяцю тысячамі студэнтаў, і свае радыё -- ды тэлестанцыя. Alma Mater выпускае газету "Alligator", а журналісты — штомесячную праграму ў выглядзе часопіса "Viewer-Listener" (Глядач-Слухач). Не згадваю пра іншыя выданні, іх шмат у — тры разы меншым за Беласток — Гэйнэсвіл.

Па-суседску з Янам Пятроўскім мае свой дом тэлежурналіст Ляры Дэйнкнір з жонкай Крыс і малою Кэй. Ім прыемна было запрасіць мяне з Таняй на экскурсію ў месца працы галавы сям'і. Усюды -- апошняе слова тэхнікі; нямала апаратуры японскага вырабу. Крыху перашкаджае канцэнтравацца нам на гутарцы неспакой у Маскве, канфрантацыя прэзідэнта Ельцына з чырвоным парламентам; у тэлевізары амаль кожную гадзіну непасрэдная карэспандэнцыя з Крамля або ваколіцаў расійскага Белага Дома. Амерыка намагаецца зразумець Расію, як і Самалію. Найлепей даходзіць да ўсіх сцверджанне прэзідэнта Клінтана (у Каліфорніі), што Ельцын не ёсць банкрут.

Пішу гэту карэспандэнцыю ў адзінаццаць вечара; выразна схаладнела, бо ўсяго дваццаць дзевяць градусаў цяпла. У маіх Крынках ужо блізкі світанак, чацвёртая раніцы. Памалу перастаю пацець. Начамі сніцца прохаладзь і... мой сад. На Фларыдзе пальмы і нейкія, празмерна буйныя, дрэвы. Агародаў не відаць, як і няма платоў; стрыжаная трава, жываплоцце, а на абочынах ляжаць чорныя пластмасавыя мяшкі з хатнімі адпадкамі (забірае іх служба ўтылызацыі). Некалі багонная краіна, былая іспанская калонія Зялёная, Фларыда жыве з турыстыкі; таксама з пенсіянераў, якія ў сваю старасць знаходзяць тут даўгавечча. У восемдзесят восем гадоў мужчыны ездзяць аўтамабілем мала чым горш, вальней, ад маладых. Зрэшты, адзінымі пешаходамі на цэнтральнай вуліцы Марціна Лютра Кінга ў нядзелю трэцяга кастрычніка былі... Таня і Сакрат. У Гэйнэсвіл няма, непатрэбныя ім, тратуараў; замест іх асфальтаваныя сцежкі для ровараў. "Амерыка — гэта зад на калёсах" -- жартуюць эмігранты. У нашых суседзяў, тых жа Крыс і Ляра, стаіць ля партэрнага дома дзве аўтамашыны, бо ў розных фірмах яны працуюць (будзе трэцяя, калі падрасце і пойдзе ў сярэднюю школу смяшлівая Кэй).

Амерыканцы асабліва зайздросна ахоўваюць усякую працу (устава на яе гаворыць пра плату мінімум пяці доляраў за гадзіну). Я з Таняй, як госці не маем права на заробак; не магу Пятроўскаму дапамагчы нават падраўняць жываплоцце, ці ўпарадкаваць пляц. Дзеля гэтага ёсць фірмы, якія ўсенька зробяць табе (і прышлюць рахунак). Дапускаючы маю ветлівую паслугу, ён парушыў бы адпаведныя законы і паліцыя ўляпіла б яму штраф. Высокі, каб памятаў!

Гэйнэсвіл выглядае, бы горад будучыні. Субтропік. Рэдкая забудова ў зеляніне. На падабенства вялізарнага кемпінга ў соснах. Мноства сівых вавёрак; спеў птушак; зрэдчас бегаюць зеляністыя яшчаркі; здараюцца гадзюкі. Алігатары ў водах. Цяжка заўважыць цэнтр агламерацыі. Рынак у нашым разуменні адсутнічае. Нічога не прадасі з рук у рукі. За кажнюткі даход плаціш падатак. Дзеля выгоды ў фармальнасцях лепей паслужыцца пасрэднікам. Прасцей і не рызыкоўна.

Дом ніхто не будуе так, як у нас. Тут іх купляюць. На раты, якія плацяць дзесяцігоддзямі. Усё можна гэтак, каб толькі сталую работу мець. Нікога не абдурыш: твой шэф -- праз лічаныя секунды -- праверыць у камп'ютэры, ці ты ў чым не махлюеш яму. Статыстычныя дадзеныя наконт чалавечае адзінкі ў Амерыцы надта дэталёвыя, не кажучы ўжо пра тваё месца работы. Таму вельмі важнаю трактуецца т. зв. грынкард (зялёная карта), якая, што праўда, не дае магчымасці стацца грамадзянінам Злучаных Штатаў, але дазваляе знайсці сабе легальны занятак. Са страхоўкаю здароўя ды жыцця. На дапусці Божа прыехаць сюды хворым; застанешся лішнім на ўтрыманні знаёмых або сваякоў. Цяжарам, з якім невядома што рабіць -- што чыніць!? Але "грын" няпроста дастаецца. Цэлая працэдура з ёю, нахуткая.

Наш хітры асобень, эміграваўшы, мусіць перакваліфікаваць сваю спрытнасць. Той, хто ў людскіх вачах выйдзе ў жулікі, прападзе. Не даб'ецца аніякага бізнесу; пры чым не скажуць такому проста ў твар, чаму не хочуць з ім займацца. Давер і грошы -- гэта еднасць. Слова мае вагу; мова быць яно і па тэлефоне.

Амерыка ёсць дзяржаваю народаў і расаў. Бізнес -- гэта яе элементарная сутнасць. Само ўзнікненне Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі не мела характару, як на наш густ, нацыянальнага паўстання. Быў гэта бунт прадпрымальнікаў супраць эканамічнага дыктату Англіі за акіянам, якая глядзела на тутэйшыя свае калоніі ў XVIII ст. катэгорыямі збыту гатовае ўласнай прадукцыі і таннае куплі сыравіны. Амерыканцы тады захацелі самі багацець, без нічыёй ласкі або апекі. Так пачынаўся гэты англамоўны народ. І ў тым ягоная сусветная прыцягальнасць.

**САКРАТ ЯНОВІЧ,**
**Гэйнэсвіл, кастрычнік.**



 

**БЕЛАВЕЖА**

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 406*

*Па ўсім відаць, што гэтыя паэтычныя радкі, якія вось публікуем, упершыню праз восемдзесят гадоў даходзяць да свайго чытача. Іх аўтар — Янук Дарашкевіч, ураджэнец Меляшкоў каля Гарадка, склаў быў у 1914 годзе зборнічак сваіх твораў „Абразкі" (праўдападобна па інспірацыі Янкі Купалы). Неўзабаве выбухнула сусветная вайна, потым расійская рэвалюцыя; аўтара захапіла вайсковая служба, стаў кадравым афіцэрам Чырвонай Арміі; загінуў у лістападзе 1943 года ў раёне Арла.*

*Рукапісны фаліянт „Абразкоў" шчасліва захаваўся ў акадэмічнай бібліятэцы ў Вільні, у якой напрыканцы гэтага лета і адшукаў яго выдатны Дарашкевічаў зямляк, мастак Лёнік Тарасэвіч з Валілаў, ініцыятар заснавання музея гарадоцкіх славутасцяў.*

*Янук Дарашкевіч закончыў у 1909 годзе настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, мястэчку вядомым сваімі адукацыйнымі традыцыямі, сягаючымі яшчэ пачатку мінулага стагоддзя. З уцалелых ягоных лістоў у рэдакцыю „Нашай нівы" даведваемся, што, напрыклад, у 1911 годзе настаўнічаў ён у Семяноўцы, блізу м. Крынкі. Моцна сябраваў са Сцяпанам Пятэльскім з Гарадка, які падпісваў свае вершы: Арол М. Гэты таленавіты паэт, высока ацэнены Максімам Багдановічам, аднагодак Януку Дарашкевічу (1890 г. нараджэння), загінуў у тую ж рэвалюцыю, у свае дваццаць сем гадоў, будучы на парозе росквіту творчых магчымасцяў. Трэцяе літаратурнае імя, якое спарадзіла Гарадоччына, гэта Аляксей Карпюк.*

*Што і казаць: урадлівая ваколіца!*

*Падборку творчасці Дарашкевіча друкуем, захоўваючы правапіс тых даўніх арыгіналаў.*

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

*ЯНУК ДАРАШКЕВІЧ (1890—1943)*

## ГАНЯ

„Годзі мне аднэй так жыць,
Сохнучы пакрысі,
Пайду сьвятам варажыць
Да старой Марысі.
Хай дасьць любаі травы,
Паглядзіць на вочы,
Можэ Янка канцавы
Ї прысьніцца ў ночы.
Можэ прыйдзя ў мясаед
Ў добрую пагоду,
А то проста цэлы сьвет
Не дае праходу.
Дзе ня йдзеш, стары й малы:
„Глядзі! замуж хочэ".
А каб вам, Бог даў, смалы
Налілі у вочы!
Добра вам мяне на сьмех
Вёскай падыймаці,
Калі ў вас (хоць губі грэх)
Ўжо па тры дзіцяці.
Нават злосьць бярэ: гляджу —
Замуж ўсіх хватаюць,
А я столькі лет сяджу,
Й нават не пытаюць!"
Бедавала гэтак ў нас,
Ў нашэй роднай вёсцы,
Адна дзеўчына як-раз
Ў Піліпавым посьці...

* * *

От Піліпаўка прайшла
Ї настала сьвята...
Тут ўжо с цэлаго сяла
Варажаць дзеўчаты.
Сабраліся да старой
Чуць ня ўсе суседзі
Ї гадаюць, хто скарэй
Выйдзя ў мясаедзе.
Ї старая ўсім як-раз
Праўду сыпля разам.
(Аля, ведама, пры вас
Гэтаго не скажэм,
Бо то сэкрэт мой: яны
Ўсё мне расказалі,
Ї с тэй ночы мае сны
Проста небам сталі).
Аля я забыў сказаць
Пра знаёму раней.
(Мы ўжо будзем яе зваць
Пекным імям — Ганяй).
Прычэкаўшы першых сьвят —
Велька нецярпеньне —
Ганя на плечы халат
Дый на варажэньне.
Пазахлеўю, вечэркам,
Каб ніхто не бачыў,
Прэ без оглядкі бягом
Да старой, не йначэй.
Прыбегае, аж глядзіць
Праз вакно да хаты:
Ані духа, толькі сьпіць
На печы вусаты
Кот. „Тай добра, што німа
Нікого у хаці.
Я-ж, вядома, не здарма
Прышла пагадаці". —
Кажэ так, — і зараз шась
Да дзьвярэй, ды ў хату...
Аж нясе тут Бог як-раз
Й Марысю гарбату.
„Як жывеце?" — завела
Зара на-перш Ганя:
„Я вам трохі прынесла
Добраго сьнеданьня".
Ї пры гэтым с-пад палы
Выняла каўбасу
Ды гаршчэчак не малы
Цёпленькаго квасу.
„Еще", кажа: „хай дасьць Бог
Вам ў спажытак стане!"
А сама ўсё на парог
Сют-тут, ды зноў гляне.
Аля што сябе страшыць
Ды на дзьвер ўзірацца, —
Як прыйшла ўжо варажыць,
Дык ня трэ баяцца!
Ї паждаўшы, каб з гаршка
Квас старая зьела,
Ганя, як-бы с-паддішка,
Ўзяласі за дзела.
Расказала, што чуваць
Ў вёсцы ды мястэчку,
Ї, пачаўшы падбіраць
Па адным славечку,
Памаленьку завела,
Што ёй кепска жыці.
Ї што вось яна прыйшла,
Каб паваражыці.
Гэта ўчуўшы, аж ад пят
Старая струпела:
Жарты! Ў першы дзень Каляд
Варажыць схацела.
„— Хіба сэрца ў цябе нет?"
Кажэ ёй са злосцю:
„Хіба хочэш на той сьвет
Паслаць мае косьці?!
Помні: Ў грэх душы не ўводзь,
Пачэкай да часу!..."
„— Та аддайце", кажэ: „хоць
Гаршчок ды каўбасу!"
„— За каўбасу прыйдзеш раз
Ашчэ пад Тры Кролі,
А гаршчок бяры: у нас
Ї сваіх даволі"...

## НАДЗЕЯ

Калі-ж тое будзя, калі то настане?
Калі я не чуціму болю?
Калі ў маё сэрцэ надзея загляне
На шчасьце, на лепшую долю?

О, край мой бяздольны, загнаны, забіты!
Як цяжка табе, сірацінe;
Як сыплюцца сьлёзы вунь з гэтай ракіты,
Што тут вось за вёскай ў даліне.

А ты не баішся — ты робіш, страдаеш
Ды гнеш сваю сьпіну без конца...
Хто ведае? Можа і ты засьпеваеш
Прывет чарадзейнаму сонцу.

Праглянуць праменьня, разыйдуцца хмары,
Засьвеціць праўдзівасьць на сьвеці
Ї сьлёзы пакуты с заплаканай твары
Сатруць твае ўзрослыя дзеці.

А час той ужо блізка — я чую грудзіма —
Працуйце-ж, браты-земляробы!
А тым, хто глумяцца над нашай радзімай,
Мы шчыра пазычым хваробы.

## С. ПЕТЭЛЬСКАМУ

Хрыстос ўваскрос! кампан мой мілы,
А сэрцэ стогне так уныла.
Чагось нема, чагось хацеў-бы...
Каб крыльля — зара паляцеў-бы
Да цябе.

## З МАЇХ ПЕСЕНЬ

Ї нудна, і цяжка на сэрцы,
Ї родных ваўкол не відаць.
О, божэ! скарэй-бы да сьмерці
Жыццё мне сваё скаратаць.

Адзін я... Адзін між другімі,
Адзін, як зязюля ў гаю
Ї часьці не маю я з імі,
А маю я долю сваю.

Як вецяр быліну качая,
Як лес непагодай шуміць, —
Так смутак душу мне з'ядая,
Так сэрцэ без сэрца баліць.

Даволі з мяне гэтай мукі!
Адзін я яе не сьцерплю...
Каму я падам свае рукі?
С кім думкі свае раздзелю?

Гляджу я на яснае неба,
Гляджу на сяло, пад гарой, —
Ўсё кажэ: „Цябе нам не трэба!
Ты будзеш жыць век сіратой".

## ПЕСЬНЯ

Чаго плачэш, чаго тужыш,
Бедная дзяўчына?
Чаго сьлёзы льеш над рэчкай?
Якая прычына?

Ці мілюсенькі не ўдаўся,
Ці пайшоў ў салдаты,
Ці мо мачэха ліхая
Выгнала це с хаты?

Забуць горэ, забуць крыўду! —
Сэрцэ любіць волю —
Дай мне ручку! мы з табою
Знайдзем лепшу долю.

Конь мой вецяр, сядзь, паедзем.
Шчасьце тут за горкай.
Днём праменьнямі ківая,
Ночу сьвеціць зоркай.


6.

Песьня

То не вецер ў полі
Жаласьліве выць, —
То з нешчасьнай долі
Мае сэрца ныць.
Душу рве кручына,
Прападая сіла.
Што была дзяўчына,
Ўта ізьмяніла.
Не, не жыць мне болей
Аднаму без мілай, —
Пацешацца волей
Пташачка бяскрылай.
Палячу канечне
Ў старану чужую;
Палюблю сардэчне
Мілую другую.

*Аўтограф "Песьні" Янука Дарашкевіча (1914 г.).*

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З ВУЧНЁЎСКАЙ ТВОРЧАСЦІ

### УСПАМІН

Лісток асенні з дрэў ападае.
Марскую хвалю чайка кранае.
І уздыхаюць старыя дрэвы
У промнях сонца, ў ветру павевах.

Зайшоў за хмарку кволы праменьчык.
Успамін застаўся — жоўты каменьчык.
Забыты столік летняй кавярні,
А бульбавінне на полі вяне.

Вады глыточак, з мукі бліночак...
Вячэра сёння нас задзіночыць,
Каб нам успомніць нашы вакацыі
У белым доме ў цені акацый.

**АДА СЕМЯНЮК,**
**Беласток, III клас**



*Школьнікі заўсёды пачыналі чытаць "Ніву" з апошняй старонкі.*
**Фота з архіва**

## ЛІСТАПАД

Надышоў лістапад. Імжыць дробны, надакучлівы дождж. Нездарма гэты час называюць „гнілой восенню". Надвор'е няўстойлівае. Холад змяняецца цяплом, снег — дажджом. Ранішнія замаразкі скавалі тонкай ледзяной скарынкай лужы і канавы.

Світае позна. Рана цямнее. Невыпадкова ў народзе пра гэты месяц кажуць: „У лістападзе досвітак са змрокам сярод дня сустракаюцца".

Для жыхароў лясоў і палёў надыходзіць галодная пара. А як яны рыхтуюцца да гэтага цяжкага, галоднага для іх часу? Калі быць уважлівым, то можна адшукаць незвычайныя „кладоўкі" ў лесе або полі, куды звяры і птушкі хаваюць свае запасы на зіму. У дуплах, пад карой дрэў, а то і проста пад мохам можна знайсці кучкі спелых жалудоў ці лясных арэхаў — „кладоўкі" соек або арэхавак. У птушыных дуплянках іншы раз знаходзяць па некалькі дзесяткаў мёртвых мышэй і дробных птушак. Гэта запасаюцца на зіму маленькія совы — касматаногі і вераб'іны сычы. Часта попаўзні закладваюць ліпавымі арэшкамі птушыныя дуплянкі да самага верху.

Калі раскапаць рыдлёўкай доўгі і звілісты ход крата, можна знайсці запасы дажджавых чарвей. Выдра і норка любяць рыбу, назапашваюць яе па 5-10 кілаграмаў. Пасля першых начных пахаладанняў пачынаюць напаўняць свае „кладоўкі" бабры. Яны падгрызаюць і валяць вербы, асіны, бярозы, таполі. „Распілоўваюць" на даволі вялікія кавалкі і па вадзе сплаўляюць да зімовачных нор або хатак. Да зімы ў „кладоўцы" бывае да 25-30 кубаметраў галін, карэнішчаў.

Вавёрка з восені пачынае хаваць у дуплы арэхі і жалуды. Нарыхтоўвае яна і грыбы, назапашвае на зіму некалькі соцень. Мышападобныя грызуны трымаюць першынство сярод усіх звяроў па колькасці і разнастайнасці зімных запасаў: гэта сотні лясных арэхаў і многа ягад брусніц, сухіх цыбулін лілей і стужак лішайнікаў. Аднойчы ў Белавежскай пушчы з дупла старога дуба з агульнай „кладоўкі" жаўтагорлых мышэй выпала 47 кілаграмаў адборных жалудоў, у „кладоўцы" хамяка знайшлі каля 25 кілаграмаў збожжа.

**А. КУРСКОЎ**

## ГРАБЯНЕЦ

Барсук знайшоў на лясной сцежцы прыгожы грабянец. І надумаў яго прысвоіць. Ды раптам узяло сумненне: „Ці не зубр гэта згубіў? Даведаецца — чакай непрыемнасцей".

Зубр пасвіўся непадалёку. Пачуў пра грабянец, сказаў:

— Буду я, зубр, нейкім грабянцом забаўляцца. Відаць, мядзведзь згубіў — футра ім вычэсвае, моль выганяе.

Пайшоў барсук да мядзведзя. Спытаў, ці яго грабянец. І зубрыныя словы пра моль перадаў. Мядзведзь раззлаваўся і выгнаў барсука з бярлогі, кінуў наўздагон:

— Мабыць, воўк грабянец згубіў, ён у нас франтам ходзіць.

Сустрэў барсук ваўка. Спытаў, ці яго грабянец. І пра франта не прамінуў сказаць.

А воўк кіпцюры выпусціў, пашчу разявіў — ледзь барсук са страху не памёр. Добра, што адпусціўся воўк, пра лісу ўспомніў:

— Гэта яна ў нас модніца, пэўна, яе грабянец.

Адшукаў барсук лісу. Спытаў, ці не яе грабянец. І воўчыя словы пра модніцу згадаў. Дык ліса аж зайшлася ад крыку. І пацягнула барсука да воўка — адносіны высвятляць.

Воўк спаслаўся на мядзведзя. І ўтраіх рушылі яны да мядзведжай бярлогі.

Мядзведзь усё зваліў на зубра. І ўжо ўчацвярых адправіліся на зубрыную паляну.

Падняўся вялікі шум, звяры адно з адным спрачаюцца, сварацца.

І тут пачуўся тоненькі галасок:

— Паважаныя, гэта я грабянец згубіла. Дзякуй, што знайшлі.

Гаварыла маці маленькіх вожыкаў. Яна растлумачыла, што кожную раніцу прычэсвае сваіх дзетак, бо нараджаюцца тыя з мяккімі, як валасы, іголачкамі.

Звяры памірыліся! І мядзведзь запрасіў іх у госці — чай з мёдам піць.

**ІЛЬЯ ШАХРАЙ**

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

## ПАМЯТНЫЯ КАЛОНЫ

Старажытныя цагляныя калоны — гістарычныя помнікі, якія ставіліся ў гонар знамянальных падзей, на скрыжаваннях шляхоў, на могілках. Часта яны абмуроўваліся, а наверсе ўмацоўваліся жалезныя крыжы або рабіліся маленькія каплічкі ці нішы, у якіх ставіліся фігуры святых. Найбольш вядомыя калоны каля вёскі Лявонпаль Міёрскага раёна, вёскі Бездзеж Драгічынскага раёна і ў горадзе Глыбокім. Яны былі ўстаноўлены ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года — асноўнага закона Рэчы Паспалітай. Калоны вядомы таксама каля Талачына, Іўя, вёсак Касцянёва Шчучынскага, Аснежыцы Пінскага, Камень Валожынскага, Дзярэчын Слонімскага, Горкі Дзятлаўскага, Пінкавічы Пінскага, Чарнаўчыцы Брэсцкага, Здзітава Бярозаўскага, Ятвеск Свіслацкага раёнаў і г. д. Усе яны звязаны з тымі ці іншымі гістарычнымі падзеямі, лёсам нашых продкаў. У ваколіцах Менска, за Ігуменскай заставай, згадваюцца тры калоны з чарапічным дахам, а пры дарозе на Наваградак — „Вікенцьеўскі слуп", каля якога ў 1863 годзе збіралася моладзь і спявала гімны. Потым гэтая калона была разбурана, на яе месца пабудавана Багародзіцкая капліца і пастаўлены абраз Багамацеры.

Аб многіх калонах існуюць паданні. Так, пра Іўеўскую калону расказваюць, што магнат Кішка выгнаў з Іўя манахаў, і пайшлі яны з таго месца, а калі ўжо былі за дзве вярсты ад мястэчка, Кішка аслеп. Тады ён загадаў вярнуць манахаў, даў ім касцёл і кляштар, а на тым месцы, адкуль яны вярнуліся, загадаў паставіць цагляны слуп.

Пра калону каля вёскі Камень на Валожыншчыне адны гаварылі, што яна нібыта азначала межы земель, а другія — што слуп узвялі шведы для лепшай арыентацыі.

У вёсцы Ятвеск Свіслацкага раёна калона была зроблена ў выглядзе шматграннай прызмы і абмуравана. Аб крыжы наверсе існуе паданне — нібыта адзін селянін зняў яго і аднёс дадому, з таго дня не было яму шчасця, А потым сасніў ён святога старога, які загадаў аднесці крыж назад. Селянін так і зрабіў, і няшчасці спыніліся.

**ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ**

## ХТО СТВАРЫЎ ЛІТАРЫ, ЯКІМІ МЫ СЁННЯ КАРЫСТАЕМСЯ?

Беларусы карысталіся і карыстаюцца двума алфавітамі — кірыліцай ды лацінкай. Акрамя таго, беларускія татары, што жывуць на гэтай зямлі ўжо 600 гадоў, свае кнігі пісалі па-беларуску арабскімі літарамі.

Асаблівa вялікі ўклад зрабілі беларусы ў развіццё кірыліцы. Гэтую азбуку, створаную ў 863 годзе хрысціянскімі прапаведнікамі Кірылам і Мяфодам для тагачаснай мовы паўднёвых славянаў, удасканалілі і спрацілі беларускія перапісчыкі. Яны адкінулі лішнія і стварылі новыя літары, якіх не было ў пачатковай кірыліцы: э, й, а таксама адмысловую літару Г (ганак, мазгі).

Францішак Скарына стварыў прыгожы друкарскі шрыфт, а канчаткова наблізіў формы літараў да сучасных Галляш Капіевіч (родам з Амсціслава), выпускнік Слуцкай гімназіі, кнігавыдавец і перакладчык. У 1700 годзе ў Амстэрдаме ён заснаваў друкарню і стварыў акругленыя, падобныя да лацінскіх, літары кірыліцы для тытульных аркушаў кніг. Шрыфты Капіевіча ўпадабаў расейскі цар Пётр І, які тады быў у Нідэрландах, і заказаў у майстра літары для кніг.

Новы шрыфт на аснове Капіевічавых літараў Пётр І зацвердзіў у 1708 годзе. Так адбылася рэформа расейскай азбукі — увядзенне грамадзянскіх, г. зн. нецаркоўных літараў. Новыя літары яшчэ доўга звалі „амстердамские литеры" ці „белорусская азбука". Менавіта гэтымі літарамі цяпер карыстаюцца беларусы, расейцы, украінцы, македонцы, балгары, сербы ды іншыя народы, што ўжываюць кірыліцу. Мовазнавец Ян Станкевіч назваў гэты шрыфт капіеўкаю.

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

## У ПІКЕРА

Пікер — гэта кій, убіты ў зямлю, пры якім стаіць адзін з удзельнікаў гульні са сваім кіем. Усе дзеці таксама з кіямі стаяць воддаль. Па камандзе вартаўніка пікера яны кідаюць свае палкі ў пікер, каб збіць яго. Той, хто стаіць пры пікеры, павінен падняць яго і зноў убіць у зямлю, а сваім кіем даткнуцца да аднаго з атакуючых. Калі гэта яму ўдаецца, той яго замяняе. Пікершчык імкнецца паставіць пікер, усе ўдзельнікі атакуюць яго і стараюцца зноў паваліць пікер. Пікершчык абараняе пікер, датыкаючыся сваім кіем да дзяцей. Але важна, каб ён даткнуўся ў час, калі пікер убіты ў зямлю.

А Разалі кінулася на калені і, заліваючыся слязьмі, пачала клікаць, прасіць, але прынц знік з вачэй, так ні разу і не азірнуўшыся, каб убачыць Разаліну роспач. Дзяўчына была ўжо гатовая страціць прытомнасць, калі раптам зусім побач пачула прарэзлівы смех шэрае Мышы.

— Падзякуй мне, Разалі, — сказала Мыш. — Гэта я табе так цудоўна дапамагла. Гэта я пасылала табе прыемныя сны пра чароўнае дрэўца і прагрызла дзіркі ў покрыве, каб пад яго можна было зазірнуць. Каб мне не ўдалася гэтая хітрасць, я, напэўна, ужо назаўжды страціла б і цябе, і твайго бацьку, і Чароўнага прынца. Але цяпер мне засталося ашукаць цябе яшчэ ўсяго толькі раз, і вы ўсе назаўжды зробіцеся маімі рабамі.

Мыш радасна пачала скакаць вакол Разалі, але яе здзеклівыя словы зусім не разлавалі дзяўчынку.

— Гэта я ва ўсім вінаватая, — падумала Разалі. — Каб не мая злачынная цікаўнасць, Мышы ніколі не ўдалося б прымусіць мяне зрабіць такі дрэнны ўчынак. Я павінна выправіць яго сваімі пакутамі, сваім цярпеннем і нязломнаю воляй. Я павінна вытрымаць трэцяе выпрабаванне, якое б цяжкае яно ні было. Дый чакаць мне застаецца ўсяго некалькі гадзін. Няўжо я не здолею? Цяпер, як сказаў Чароўны прынц, ад адной мяне залежыць яго, маё і бацькава шчасце.

Падумаўшы гэтак, Разалі вырашыла стаяць на месцы і больш нікуды адсюль не ісці. І колькі Мыш ні старалася, яна так і засталася каля разбуранага палаца.

**Глава 5**

## Куфэрак

Так прайшоў увесь дзень. Разалі страшна хацелася піць, але яна казала сабе:

— Не, я павінна яшчэ болей пакутаваць у пакаранне за тое, што прымусіла пакутаваць бацьку і прынца. І пакуль мне не споўніцца пятнаццаць гадоў, я нікуды адсюль не пайду.

Пачынала цямнець, калі на дарозе з'явілася старая кабета. Яна падышла да дзяўчынкі і папрасіла:

— Маё мілае дзіцятка, ці не зробіце вы мне такую паслугу і ці не дагледзіце за маім куфэркам? А то ён такі цяжкі, а мне яшчэ трэба зайсці да адной сваячніцы тут непадалёку.

Разалі была дзяўчынка спагадлівая, і таму адказала:

— Калі ласка, бабулька, пакідайце куфэрак, я за ім дагляджу.

Старая кабета падала ёй куфэрак і сказала:

— Дзякуй, маё мілае дзіцятка. Я пайду ненадоўга. Але вы не адчыняйце куфэрка і не глядзіце, што ў ім, бо там такое... такое, чаго вы не бачылі і ніколі не ўбачыце... Трымайце яго вельмі асцярожна і не стукніце, калі захочаце паставіць на зямлю, бо ён вельмі нетрывалы і можа разламацца... І тады вы ўбачыце, што ў ім ляжыць... А гэтага ніхто не павінен бачыць!

Сказаўшы гэта, старая кабета пайшла. А Разалі акуратна паставіла куфэрак побач з сабой на зямлю і

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

### ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА (9)

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

пачала думаць пра ўсё, што з ёй здарылася. Ужо зусім сцямнела, а бабулька ўсё не вярталася. Разалі скінула вокам на куфэрак і са здзіўленнем убачыла, што зямля вакол яго свеціцца.

„Што гэта за святло ідзе з гэтага куфэрка?" — падумала яна.

Яна ўзяла куфэрак у рукі, пакруціла яго, агледзеўшы з усіх бакоў, але так і не зразумела, ад чаго ідзе такі незвычайны бляск. Тады яна паклала яго зноў на зямлю і сказала:

— Якая розніца, што ў ім ляжыць? Ён жа не мой, а той бабулькі, якая мне яго даручыла. Не буду болей пра яго думаць, а то мне захочацца яго адчыніць.

І яна сапраўды перастала на яго глядзець і нават пастаралася болей пра яго не думаць. Заплюшчыўшы вочы, яна вырашыла чакаць новага дня.

Калі настане дзень і мне споўніцца пятнаццаць гадоў, я зноў убачу Чароўнага прынца і бацьку, і мне болей не трэба будзе баяцца нягоднае варажбіткі.

У тую ж хвіліну Разалі пачула танюткі Мышыны галасок, які насмешліва віскнуў:

— Разалі! Разалі, я тут! Я болей табе не вораг. Каб давесці гэта, я нават магу, калі хочаш, паказаць табе, што ў гэтым куфэрку!

Разалі нічога не адказала.

— Разалі, ты што — не чуеш, што я сказала? — зноў завішчала Мыш. — Я твой сябар! Калі ласка, павер!

Але дзяўчына маўчала.

Тады Мыш, якой трэба было спяшацца, кінулася на куфэрак і пачала грызці ўяго вечка.

— Ах ты нягодніца! — крыкнула Разалі, выдзіраючы куфэрак у Мышы і прыціскаючы яго да грудзей. — Калі ты хоць раз ячшэ да яго дакранешся, я зараз жа скручу табе галаву!

Мыш злосна зірнула на Разалі, але ўгнявіць яе пабаялася. Пакуль яна прыдумляла, як бы распаліць Разаліну цікаўнасць, гадзіннік прабіў паўночы. У тое ж імгненне Мыш страшна завішчала і крыкнула:

— Усё, Разалі, твой дзень нараджэння настаў! Цяпер табе споўнілася пятнаццаць, і ты можаш болей мяне не баяцца. З гэтай хвіліны вы ўжо не залежыце ад маіх чараў, ні ты, ні твой агідны бацька, ні брыдкі прынц. А я назаўжды застануся гадкаю шэраю мышшу, пакуль не здолею завабіць у свае пасткі якую-небудзь іншую такую ж прыгожую дзяўчыну, як ты. Бывай, Разалі! Можаш цяпер адчыніць свой куфэрак.

Сказаўшы гэта, шэрая Мыш знікла. Але Разалі не давала веры варажбітчыным словам і не зрабіла, як тая раіла. Яна вырашыла не адчыняць куфэрка, пакуль не настане дзень. І толькі яна прыняла гэтае рашэнне, як Пугач, што пралятаў над Разалі, выпусціў з лапаў камень і трапіў ім якраз у самы куфэрак. Куфэрак разляцеўся на тысячы кавалкаў! Разалі крыкнула ад жаху і раптам убачыла перад сабой каралеву фею, якая сказала:

— Не бойцеся, Разалі. Вы нарэшце перамаглі свайго жорсткага ворага, і цяпер я вярну вас да вашага бацькі. Але раней паешце ды папіце.

І чараўніца падала ёй плод, аднаго кавалачка якога Разалі хапіла, каб наталіць і смагу, і голад. У тое ж імгненне перад чараўніцай узнікла калясніца, запрэжаная парай прыгожых, белых у шэрыя яблыкі, коней, яна села ў яе і запрасіла з сабой дзяўчыну.

*(Заканчэнне будзе)*

## Вершы Віктара Шведа

### ШТО БУДЗЕ НА ВЯЧЭРУ?

Непаседу просіць маці:
— Перастань ты выдурняцца!
Я ж ужо не маю сілы,
Давядзеш ты да магілы.

Будзеш хуліганіць болей —
Я вячэраць не дазволю.
Маму запытаў Валерык:
— А што будзе на вячэру?

### ВЯРТАЙСЯ ДАХАТЫ — МАЕМ БЛІЗНЯТЫ

Мама просіць Колю:
— Вызваліся ў школе.
Маем двух братоў,
Вяртайся дамоў.

— Не буду дурным,
Скажу аб адным.
А другі падыдзе
На наступны тыдзень.

### Я ВУЧУСЯ ЯК НАЙМЕНЕЙ

Лае гарэзу ўнука
Дзядуля надта строгі:
— Бацькоў твая навука
Каштуе вельмі многа.

На гэтае ўнук шэльма
Сцвярджае без сумлення:
— Стараюся ж я вельмі
Вучыцца як найменей.

### ДЗЕТКІ ШАНУЮЦЬ КВЕТКІ

Песні бабуля
Вучыць Ганулю:
— Усе дзеткі
Шануюць кветкі.

Пытаннем гэткім
Мучыць Ганулю:
— Чаму толькі дзедкі,
А не бабулі?

### ЯК СЯБРАВАЦЬ З ІЛГУНОМ?

Матуля гутарыць з сынком:
— Скажы мне, дарагі сыночак,
Чаму з суседа Міхасём
Ты сябраваць ніяк не хочаш?

— А ці з паклёпнікам, ілгуном,
Ты сябраваць хацела б мама?
Не пасябрую з Міхасём,
Ён кажа аба мне так сама.

### МАЎЧЫЦЬ, ЯК РЫБА

На прыродазнаўства ўроку
Вучняў настаўнік папрасіў,
Каб тых звярочкаў, што навокал,
Імітавалі галасы.

Мяўкалі дзеці і брахалі,
Нехта як певень запяяў.
Маўчаў упарта толькі Алік:
— Я ж рыба, — хлопец адказаў.

### ЯК ДОЎГА ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ?

На панадворку рашаюць дзеці:
Як доўга людзі жывуць на свеце?
— Год дзевяноста, — хваліцца Уля, —
Жыла на свеце мая бабуля.

Янка на гэта: — Бывае рэдка,
Гадочкаў сотню пражыў мой дзедка.
— Мае сваякі, — сцвярджае Света, —
Не паўміралі, жывуць дагэтуль.

### Я ЕДУ З ГОРКІ

У гімнастычнай школьнай зале
Дбаюць пра моладзі здароўе.
Вучні ўсе на плячах ляжалі,
Выконвалі нагамі „ровар".

Не варушыў зусім нагамі
Толькі гарэзлівы Ягорка.
— Чаму ты не працуеш з намі?
— Цяпер якраз я еду з горкі.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Што з табою, Міколка? Чаму ты спіш на ўроках? — пытаецца настаўнік.

— Не магу нічога зрабіць. Гэта ўва мне вялікі талент дрэмле.

* * *

Неяк Юрка не паслухаўся маму і быў за гэта пакараны.

— Ты чаго плакаў? — пытаецца ў Юркі тата.

— А-а, гэта мы з тваёю жонкаю разышліся ў поглядах.

* * *

— Тата, купі мне большую шапку.

— Нашто? У цябе ж ёсць шапка.

— Настаўніца сказала, што ўсё, аб чым мы на ўроку гаварылі, трэба мець у галаве.

* * *

Настаўнік:

— Дык вось, дзеці, мы ўжо з вамі сказалі, што ад хатняй жывёлы мы выкарыстоўваем пераважна мяса. А што мы робім з касцямі? Скажы, Пеця.

— Косці мы адкладваем на бераг талеркі!

* * *

— Пецечка, ты выправіш, на маю радасць, „двойку" па спевах?

— Мамулька, а як мне гэта зрабіць: настаўнік увесь час трымае журнал пры сабе.

* * *

— Тата, наша настаўніца ніколі жывога гусака не бачыла.

— Няўжо праўда?

— Ага! Я намаляваў, а яна дапытваецца: „Што гэта за птушка?"

**Сабраў**
**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**

## ГЭТА ЦІКАВА

У час палёту птушкі ляцяць на вышыні 100-500 метраў і, як выключэнне, падымаюцца на вышыню да 3000 метраў. Скорасць пералёту птушак у сярэднім складае 40-80 кіламетраў у гадзіну. Дробныя пеўчыя птушкі пралятаюць са скорасцю 30-48 кіламетраў у гадзіну, вароны — 50-72, шпакі — 61-79, гусі — 67-74, качкі — 71-95, белыя буслы — 74, стрыжы — 150-160 кіламетраў у гадзіну.

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі на трэці дзень лістападаўскай поўні будзе ясны захад сузор'я Стажары — зіма прадбачыцца суровая, а калі туманны — дажджлівая.

Лістота з дрэў падае позна — будзе суровая і працяглая зіма.

# Не быць чужынцам на сваёй зямлі

У нас свая зямля. Маем багатую культурную спадчыну і родную мову. Аднак у пошуках шчасця часта блукаем чужымі дарогамі. Маладое пакаленне беларусаў Беласточчыны засвойвае веды на чужой мове. На ўроках геаграфіі, гісторыі, музычнага выхавання ці мастацтва амаль нічога няма пра наш народ. Таму мы і бяднеем, губляем сваю самабытнасць.

Але не кожны з маладых будзе чужынцам на сваёй бацькаўшчыне. Знаходзяцца дзяўчаты і хлопцы, якія стараюцца знайсці сваё роднае. Хто ім дапаможа? Дарослыя маюць "важнейшыя" справы на галаве: грошы, жыццёвую кар'еру, бытавыя турботы. Настаўнікі ў школах перш за ўсё рэалізуюць навучальныя праграмы. Беларускія арганізацыі займаюцца палітыкай, ладжаннем відовішчных мерапрыемстваў ды змаганнем за свой быт. Спадзявацца на культурна-асветныя ўстановы няма сэнсу. У іх свае праблемы.

А беларуская моладзь сама шукае сцежак да роднага. І знаходзіць. Вось ужо больш дзесяці гадоў на Беласточчыне праходзяць рознага роду вандраванні маладых беларусаў. Запачаткавалі іх студэнты. Адбываюцца рэйды праваслаўнай моладзі. У канцы чэрвеня 1987 года прайшоў першы рэйд беларускіх вучняў. Арганізавалі яго члены сцэнічнага гурту "Парнас", які дзейнічаў у Бельску. Тады нарадзілася своеасаблівая форма вандравання ў спалучэнні з мастацкімі выступленнямі. Да 1990 года "Парнас" правёў сем вандровак па розных мясцінах Беласточчыны, зведаў каля шасцідзесяці мясцовасцей. Адбылося некалькі дзесяткаў сцэнічных выступленняў з беларускім словам і песняй. Часта ладзіліся яны каля вогнішчаў, а бывала, што пастаноўкі былі на вуліцы ці панадворку. У 1990 годзе пераемнікам "Парнасу" стаў "Балаган", які дзейнічае ў Беластоку. На вандроўках выступае разам са студэнцкім тэатрам "Жывое слова" з Менска. У канцы жніўня г.г. на Бельшчыне адбылася трэцяя такая вандроўка (гл. "Ніва" н-р 39 ад 26 верасня). Як заўсёды была магчымасць многае наведаць, пабачыць і паслухаць.

Спачатку "Балаган" і "Жывое слова" завіталі ў Бельск. Тут імі апекаваўся Дарко Фёнік -- пачынальнік "Парнасу" і сцэнічных вандровак. Дзякуючы яму дзяўчаты і хлопцы вельмі многа даведаліся пра гісторыю Бельска і Падляшша. Яго салідныя веды пра нашае мінулае і беларускую культуру павінны служыць узорам для настаўнікаў у нашых школах.

Пешае вандраванне пачалося ў вёсцы Кнарыды. У маляўнічым месцы, сярод лугоў на захад ад вёскі знаходзіцца святое месца. На крыніцы пабудаваная праваслаўная каплічка. Побач камень, на якім можна пабачыць след ступні Божай Маці. Калісьці ішоў лугам бацька са сваім сляпым сынам. Спыніліся ля крыніцы, і калі сын прамыў вадой невідушчыя вочы, убачыў жаночую постаць, якая стаяла на камені. З таго часу стаў ён бачыць. Нам вельмі патрэбныя жыватворныя крыніцы, каб пазбыцца слепаты...

У першы дзень "Балаган" і "Жывое слова" выступілі з супольнай сцэнічнай праграмай два разы: у Кнарыдах і Мокрым. На другі дзень перайшлі мы ў невялічкае Падбелле. Тут многа мы пабачылі і пачулі. Настаяцель прыхода а. Мікалай Блізнюк расказаў багатую гісторыю мясцовасці, паказаў царкву, руіны грабніцы сям'і генерала Жаўтухіна (былога ўласніка маёнтка) і пазнаёміў са 113 гадовай бабуляй Еўдакіяй Найман (тады найстарэйшай жыхаркай Польшчы). Затым апынуліся мы ў Дубяжыне, які некалькі гадоў таму назад славіўся беларускімі "Дубочкамі". Аднак гэты вакальны калектыў чамусьці занепаў, хоць БГКТ вельмі апякуецца самадзейнікамі. Цяпер тут узнік украінскі мастацкі калектыў і нам, як беларускай моладзі хацелася сустрэцца з ім, быць можа, пасябраваць. Пасля сцэнічнага выступлення чамусьці не ўдалося наладзіць сустрэчы з мясцовымі спевакамі. Тады вандроўнікі наладзілі вогнішча, запрасілі ў кампанію мясцовых дзяўчат і хлопцаў. Пры супольнай бяседзе выявілася, што дубяжынцы адчуваюць сябе беларусамі, толькі некаторыя актывісты пераконваюць іх да ўкраінскасці.

"Мо калісьці прысніцца вам сон, у якім быццам агнявога змея, душылі б вы сваю беларускасць. Мо калісьці ў сне загаворыць да вас, велікан Белай Русі і сцісне вам, сваімі лапамі кадык і як здраднікаў задушыць!" -- так напісаў Юрка Трачук, колішні журналіст "Нівы". Ён з вёскі Быстрэ (гм. Боцькі). Непадалёк дому Трачукоў у Быстрым, проста на вуліцы сярод рабочага дня сабраліся мясцовыя людзі паслухаць нашае выступленне. Мясцовыя дзяўчаты добра накармілі вандроўнікаў і правялі праз вялікі лес і рэчку Нурэц у вёску Дубна. Разам прайшло сем супольных сцэнічных выступленняў двух калектываў -- "Жывога слова" і "Балагану". Кожны раз публіка з вялікім задавальненнем успрымала беларускае мастацкае слова, песні і жарты.

На заканчэнне вандроўкі наведалі мы гістарычнае мястэчка Боцькі. Многія стагоддзі было яно ва ўладанні княжацкага роду Сапегаў, які паходзіў з Беларусі. Гістарычныя падзеі так склаліся, што цяпер тут дамінуе польскасць. У гэтай мясцовасці ёсць праваслаўная царква і каталіцкі касцёл, што былі сведкамі многіх падзей. Ксёндз, які паказаў нам пышны касцёл расказаў, між іншым, такую цікавую гісторыю. У пачатку XVIII стагоддзя адзін з Сапегаў паехаў у Рым. Будучы там, упадабаў сабе адзін святы абраз так, што аж украў яго. Скруціўшы яго ў рулон, схаваў, прывязаўшы пад жыватом каня. Злавілі яго італьянцы, калі той, стоячы пад канём на каленях, маліўся. Тады дазволілі абраз вывезці, але за "кару" папа рымскі загадаў Сапегу пабудаваць сем каталіцкіх касцёлаў у розных мясцовасцях у сябе на радзіме. Вось такім чынам у Боцьках стаіць адзін з прыгажэйшых касцёлаў.

Замест выступлення вечарам 27 жніўня ў Боцьках група вандроўнікаў была ў царкве, дзе мясцовыя праваслаўныя прыйшлі на малітву перад святам Успення Божай Маці. Наступнага дня раніцай трэба было вяртацца ў Беласток.

Чарговая вандроўка закончылася. Успаміны застануцца надоўга. Многа было цікавых сустрэчаў, якія бясследна не знікнуць.

Напісаў я толькі пра некаторыя эпізоды з вандроўкі, спадзеючыся, што знойдуцца прыхільнікі гэтай формы культурна-асветнай дзейнасці на Беласточчыне. Можа нехта схоча напісаць свае меркаванні ў "Ніву"? Можа нехта схоча дапамагчы арганізаваць такія мерапрыемствы?

**ЯН МОРДАНЬ**

# ЗАКІД КЛАСІКУ

Калісьці патэлефанаваў я Сакрату Яновічу. На канец нашай размовы, я пажадаў яму „крэпкага здароўя". Сакрат абурыўся і з саркастычным смехам паправіў мяне: „Васіль, моцнага, моцнага здароўя". Тым сказам зусім збіў мяне з панталыку і я закончыў размову з Крацем на зусім чужой мове.

На другі дзень вечарам вярнуўся я да аднаго з нашых класікаў, Якуба Каласа, ды заўзята чытаў, чытаў... Аж на 280 старонцы ў апавяданні „Песня птушкі", ужо ў пяршуткім радочку прачытаў: „У цеснай, крэпкай турме..." Задумаўся я тады: чаму можа быць „крэпкая турма", а нельга быць „крэпкаму здароўю"? Далей прачытаў я ў гэтага ж класіка „воздух" замест „паветра", хаця цэлае апавяданне было напісана на беларускай мове. Чаму тады ў нашага славутага пісьменніка Сакрата Яновіча не хапае талерантнасці да людзей, якія беларускую літаратурную мову вывучаюць самі? Тым больш, што сам Крацё некалі гаворыць, калі яму гэта пасуе, што мова — інструмент „porozumiewania się między ludźmi".

Калі ўжо крыху супакоіўся, пачаў я далей чытаць апавяданне „Дурань". Не дачытаў, паставіў кніжку на месца. Класік мяне раздражніў паблытанасцю думкі або, лепш сказаць, адсутнасцю рэальнасці ў апавяданні. Няхай сабе будзе гэта казкай, але яна павінна быць „праўдзівай". Тым часам Я. Колас напісаў:

*(...) Дзіўна, што пастрыг! Так пастрыг, што лепей і не трэба.*

*— Дык і я папрашу дурня, каб і да маіх авец пусціў ён стрыгуна.*

*За крыўду, якую дурань вычаўп братавым, браты хацелі яго ўтапіць, але возера было замерзлае...*

і гэтак далей.

Людочкі, ратуйце, хто ў нашым клімаце зімою стрыжэ авечак? Гэта могуць рабіць, прашу прабачэння, толькі дурні. А паводле Я. Коласа, яны ўсе былі разумнымі. А мо бацькі Якуба Коласа гадавалі авечак у хаце, каб авечкам было цёпла і маглі яны дзяліцца сваёй воўнай з гаспадарамі?

Не магу я выбачыць класіку таго, што непатрэбна ўводзіць у апавяданне чужую мову, як і таго, што зімою стрыжэ бездапаможныя, але сімпатычныя жывёліны. За адным толькі выняткам: калі да ўсяго гэтага прымусілі іх бальшавікі. Бо ж вядома, што трэба было выканаць кожны план, а гэта значыць, што хтосьці якраз зімою запатрабаваў ад Коласавых герояў, каб даставілі воўну ў горад на патрэбы арміі.

Ну, за што ж я пацярпеў ад Прыяцеля?

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

# БОЛЬШАЕ ЗАЦІКАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ

— У Пачатковую школу ў Кляшчэлях ходзяць вучні з горада Кляшчэлі, з жыллёвага пасёлка былога ПГР, а таксама з Дабрывады. Усяго — 241 дзіця. Шэсцьдзесят двух вучняў, тых з-за горада, возяць у школу аўтобусам, — паінфармаваў дырэктар Юрый Якубоўскі.

У часе летніх месяцаў у школе адрамантавалі кафляныя печы ды памалявалі падлогі. Была аднаўлена зала для фізкультурных заняткаў.

У памяці вучняў замацаваўся першы дзень у школе і складанне кветак на магілы воінаў другой сусветнай вайны. Другое важнае мерапрыемства адбылося 24 верасня. Гэта прысяга першакласнікаў, якія абяцалі добра вучыцца, быць паслухмянымі сваім настаўнікам ды шанаваць добрае імя сваёй школы.

— У гэтым навучальным годзе беларускай мове пачало вучыцца 33 дзяцей. Зараз заўважаецца большае зацікаўленне роднай мовай сярод другакласнікаў, якія толькі што пачынаюць вывучаць гэты прадмет, — сказала настаўніца беларускай мовы Валянціна Шмукста. — Гэта не можа не цешыць. Ужо ў верасні адбылася сустрэча вучняў, якія ходзяць на ўрокі беларускай мовы, з літаратарам, членам Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Янкам Целушэцкім. Цікавае было спатканне!

Новы школьны год толькі распачаўся, а вучні з кляшчэлеўскай школы ўжо двойчы ездзілі ў Беласток: у Лялечны тэатр на спектакль ды ў кіно на кінафільм. Цяпер усе школьнікі рыхтуюцца да Свята печанай бульбы. Як мы даведаліся, падчас гэтага мерапрыемства ў шчырым полі апрача духмянай смачнай бульбы, печанай у попеле-прыску будуць печаныя на вогнішчы кілбаскі. У плане мерапрыемстваў прадугледжаны экскурсіі ў надморскія ваколіцы або ў горы.

Вучні выпускаюць — раз у месяц — сваю газету „Тры з дзвюма мінусамі". Яе рэдагуюць самі вучні пад кіраўніцтвам настаўніцы польскай мовы Ірэны Палавянюк. У газету многа дапісаў і інтэрв'ю рыхтуюць, між іншым, Артур Шымчук, Яланта Шумовіч, Ізабела Сяліцкая, Анна Артысевіч, Кацярына Васілюк, Малгажата Ліпінская, Павел Тафілюк і Тамаш Кас'янюк.

У школе актыўна працуе камп'ютэрны гурток, які вядзе Юрый Якубоўскі. Вучні карыстаюцца навейшым камп'ютэрным абсталяваннем і друкаркай. Два гады таму купіў яго для школы бацькоўскі камітэт.

Добра служыць вучням школьная бібліятэка, у якой 5,5 тысячы тамоў, у тым ліку падручнікі для паасобных класаў, а таксама беларускія і рускія кніжкі.

Варта адзначыць добрую арганізацыю харчавання ў школе. Абеды смачныя. Вучні і настаўнікі ахвотна карыстаюцца сваёй сталовай. Абеды для вучняў з бяднейшых сем'яў фінансуе ўправа горада і гміны.

І яшчэ варта дадаць, што ў цэнтры горада будуюць новую школу. Былі б грошы, а пабудова яе хутка закончылася б. Зараз будынак ужо накрыты чарапіцай.

**ЯНКА ЛУЦКІ**

## СВЯТЫ ВЕЛІКАМУЧАНІК ДЗМІТРЫЙ САЛУНСКІ

Святы Дзмітрый выводзіўся з Салуні (сённяшнія Саланікі ў Грэцыі), дзе яго бацька займаў пасаду ваяводы. Было гэта на зломе III і IV стагоддзяў, якія характарызаваліся многімі праследаваннямі хрысціян. Бацькі Св. Дзмітрыя патаемна вызнавалі хрысціянства і свайго сына ўжо з дзяцінства выхоўвалі ў духу Хрыстовай веры. У іх доме быў спецыяльны пакой для малітвы з іконамі Збавіцеля і Багародзіцы, і ў ім будучы мучанік прыняў святое хрышчэнне.

Пасля смерці ваяводы імператар Максіміліян, ведаючы мудрасць, адвагу і баявы дух ягонага сына Дзмітрыя, менавіта яму даручае кіраванне Салунскай правінцыяй. Прыгадвае таксама, каб не забыў ён ачысціць горад і ваколіцу ад хрысціян. Неўзабаве пасля атрымання сваёй пасады Св. Дзмітрый пачынае яўна вызнаваць веру ў Хрыста і прапаведаваць яе сярод іншых. У гэтай галіне зрабіў ён так многа, што гавораць аб ім, што быў ён для Салуні другім апосталам Паўлам. Весткі аб яго паводзінах хутка дайшлі да імператара, які вырашыў асабіста праверыць сапраўднасць інфармацыі. Вяртаючыся з бітвы, імператар прыпыняецца ў Салуні і загадвае паклікаць да сябе Святога Дзмітрыя, які ўжо раней падрыхтаваўся да гэтай сустрэчы і да прыняцця пакутніцкага вянка. Усю сваю маёмасць, якую пакінулі яму бацькі, перадаў у апеку свайму слузе і загадаў яму параздаваць яе бедным і патрабуючым. Святы Дзмітрый ставіўся перад абліччам імператара Максіміліяна і без боязі прызнаўся, што ён — хрысціянін. Імператар кідае яго ў турму. У астрозе ён горача моліцца і посціць. Аднойчы ноччу з'явіўся яму Анёл Божы, які стаў рыхтаваць яго да пакутніцкай смерці. Святы Дзмітрый загінуў у турме. Яго падчас малітвы прабілі коп'ямі салдаты. Здарылася гэтае каля 306 года. Цела Святога было пахаванае хрысціянамі ў яго родным горадзе. Пасля спынення праследаванняў над магілай Святога Дзмітрыя была пастаўлена капліца. Потым падчас яе разбудовы, якую зрабіў адзін вяльможа, былі адкрыты Святыя Мошчы, якія выдзялялі Святое Міра. Аб цудоўным благавонным міры ад Святога Дзмітрыя пісалі многія пісьменнікі і гісторыкі, між іншым, Дзмітрый Хрызолаг, які жыў у XIV стагоддзі.

З пастацццю Святога Дзмітрыя спалучаны цуды, між іншым ацаленне Салуні перад наездам Авараў пры панаванні імператара Маўрыкія (582—602).



Памяць Святога Велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага адзначаецца 8 лістапада (26 кастрычніка паводле старога стылю). Субота перад днём Св. Дзмітрыя называецца Дзмітрыеўскай радзіцельскай суботай (адной з некалькіх такіх субот у годзе), падчас якой згодна з праваслаўнай традыцыяй памінаецца нашых памерлых. У сувязі з тым, што ў гэту суботу — 6 лістапада — выпадае Свята Іконы Божай Маці „Всех скорбящих Радость", у некаторых прыходах Радзіцельская субота можа быць перанесена на тыдзень раней.

**С. Н.**

## ORDYNARIAT PRAWOSŁAWNYCH

Ustawa z 1991 roku o stosunku państwa polskiego do Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego stanowi m. in., że dla zapewnienia właściwych warunków posługi duszpasterskiej wśród poborowych — wyznawców tej religii, zostanie powołany do życia Prawosławny Ordynariat Wojska Polskiego. Decyzja ministra obrony narodowej z kwietnia bieżącego roku w sprawie utworzenia ordynariatu była logicznym następstwem tamtego ustawowego zapisu i stanowiła — jak podkreślano w komunikacie MON — „realizację demokratycznej zasady równouprawnienia wyznań".

Zdawało się wówczas, że sprawy potoczą się gładko i już niebawem prawosławni żołnierze otrzymają duchowe wsparcie od swych wojskowych kapelanów. Szczególnie że władze Kościoła prawosławnego, biorąc pod uwagę finansowe trudności armii, wydatnie ograniczyły swe pierwotne apetyty na wojskowe etaty, godząc się na rozwiązania oszczędnościowe. Tymczasem dziś, w pięć z górą miesięcy od opublikowania wspomnianej decyzji, sprawa — przynajmniej dla prawosławnych — nie ruszyła z miejsca: nie ma ani ordynariatu, ani jego kancelarii, ani kapelanów. Prawosławni żołnierze, których nadzieje przedwcześnie jak się okazuje rozbudzono, piszą pełne goryczy i żalu listy na adres władz swego Kościoła.

Rozmaitych perturbacji wokół wciąż jeszcze nie istniejącego w praktyce Prawosławnego Ordynariatu Wojska Polskiego było, jak dotąd, sporo. Żeby nie zanudzać Czytelników, wymienię tylko najważniejsze.

Zaczęli jakby prawosławni, skoro wskazany przez nich biskup — kandydat na stanowisko ordynariusza wojskowego z misji tej — po zastanowieniu — zrezygnował. Wojsko nie było dłużne: chciano prawosławnego ordynariusza uraczyć pułkownikowską zaledwie szarżą i etatem. Argumentowano, że „generał na czterech kapelanów okręgowych" to za dużo. Zapomniano przy tym, że to właśnie sami prawosławni ograniczyli swe etatowe propozycje w trosce o stan wojskowej kasy. I że zamiar „zdegradowania" ich człowieka poniżej stopnia generalskiego, przyznanego wszak ordynariuszowi polowemu Kościoła rzymskokatolickiego, jest dla nich ze względów prestiżowych nie do przyjęcia. Być może dlatego kolejnym kandydatem na to stanowisko jest arcybiskup. Jemu przecież nikt pułkownikowskich dystynkcji nie poważy się zaproponować. Nie przewidzieli, że wojsko na to też znajdzie argumenty: czy arcybiskup — ordynariusz dwu diecezji będzie mieć czas, aby sprawować nadzór nad trzecią jeszcze diecezją — ogólnopolską wojskową? Czy nie odbije się to ujemnie na jakości jego posługi duchowej w szeregach armii?

W kancelarii metropolity Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego nie kryją swego rozżalenia, nazywając obecną sytuację obstrukcją, grą na zwłokę. Przewidziany na szefa kancelarii Prawosławnego Ordynariatu Wojska Polskiego płk. rez. Jerzy Szewełło zwraca uwagę na szkody polityczne, jakie Polska w rezultacie zwłoki w powołaniu tego ordynariatu do życia ponosi na arenie międzynarodowej, zwłaszcza w stosunkach z armiami państw NATO, do którego aspirujemy. W armiach Sojuszu Atlantyckiego panuje przecież równouprawnienie wyznań. Prawosławni znają też oczywiście artykuł w tygodniku „Nie", sugerujący, że przyczyną opóźnień jest niechętne prawosławnemu ordynariatowi wojskowemu stanowisko rzymskokatolickiego ordynariusza polowego, biskupa gen. Sławoja Leszka Głodzia.

W wojsku — „czeski film", czyli nikt nic nie wie: w biurze rzecznika prasowego ministra, w gabinecie wiceministra, w departamencie prawnym MON — jedynie dyrektor departamentu kadr Zbigniew Skoczylas coś wie. Twierdzi, że etatu wprawdzie jeszcze nie przyznano, ale cała sprawa jest już pozytywnie dla prawosławnych przesądzona i „leży na biurku wiceministra Bronisława Komorowskiego". Winne zaistniałej zwłoki są... wybory i czas powyborczy.

Podobno chodzi tylko o to, żeby przyszłej ekipie rządowej nie utrudniać życia dziś podjętymi decyzjami.

**MAREK BURCZYK**
**„Kurier Poranny" Nr. 193 (954) z 6.10.1993 r.**

## ХОР У ПРАНЕВІЧАХ

У эпоху вялікіх еўрапейскіх кампазітараў XIX ст. Беласточчына была краінай, здавалася б "далёкай ад свету". Беларуская музычная культура існавала тут пераважна ў сферы натуральнага фальклору. Арганізаваныя формы ствараліся перад усім на аснове школ і царкоўных прыходаў. У гэтым артыкуле хачу пазнаёміць чытачоў з гісторыяй заснавання ў II палове XIX ст. хору ў вёсцы Праневічы каля Бельска. Гэты эпізод, несумненна годны ўвагі адпаведных даследчыкаў, прадстаўлены ў царкоўных прыхадскіх крыніцах.

* * *

Прыход св. Міхала (даўняя Багаяўленская царква) у Бельску ў XIX ст. прадстаўляў сабою больш "вясковы", чым гарадскі прыход. Пасля 1866 г., калі аднавілі Троіцкі прыход, апрача вернікаў з вёсак Пілікі, Праневічы, Спічкі і Шасталы прыхаджанамі тае царквы было не больш 30-ці сем'яў з самога Бельска (напр. у 1871 г. — 21 сям'я). Пры пэўнай аддаленасці вёсак ад цэнтра прыхода і вядомай арганізацыі сялянскага жыцця, у такіх варунках цяжкавата было ладзіць нармальнае прыхадское жыццё. Гэта тычылася таксама і царкоўнага хору. Да 70-х гадоў такога хору практычна не было.

Як вынікае з "Царкоўнага Летапісу" айца Аўгусціна Тарановіча, у 1875 г. пры царкве св. Міхала ўзнік змешаны хор з дваццаці чалавек, перад усім жыхароў вёсак Пілікі і Праневічы. Харысты з вялікай ахвотай усю зіму ўдзельнічалі ў рэпетыцыях. Аднак іх здольнасці аказаліся недастатковымі. З надыходам вясны, у сувязі з палявымі работамі ўзніклі новыя складанасці.

Каб запэўніць сталых, адукаваных харыстаў, вядучы хор, згаданы а. Тарановіч рашае звярнуцца ў Віленскую вучэбную акругу за дазволам на вядзенне спеваў у Бельскім павятовым вучылішчы. Справа навукі царкоўных спеваў была падтрымана Наглядчыкам вучылішча К. Квяткоўскім і неўзабаве некалькі здольных хлопцаў са школы спявалі ў царкве. Айцец Аўгусцін пісаў у летапісе: "Паступова богаслужэнне набірала той урачыстасці, якую натуральна прыдае ёй зладжаны харавы спеў".

Прыйшлі персанальныя змены на пасадзе наглядчыка вучылішча. К. Квяткоўскага чаргова замянялі людзі непрыхільныя пачынанням святара ў школе.

"Змена наглядчыка (пасля Квяткоўскага ўжо другога), іх асабістыя погляды, адносіны, да таго інтрыгі пэўных асоб мелі несприяльны ўплыў на справу", -- пісаў а. Аўгусцін.

Пасля выязджэння царкоўных спеваў са школы, трэба было ізноў пачаць працу сярод вясковых прыхаджан. Найбольш "расспяванай" вёскай прыхода аказаліся Праневічы і менавіта настаяцель іх выбраў месцам рэпэтыцыяў хору. Знайшоўся і "свой" настаўнік спеваў, ураджэнец Праневіч, выпускнік павятовага вучылішча Іван Шум. Увосень 1880 г. з жыхароў Праневіч быў укамплектаваны змешаны хор з 24 чалавек. Заняткі хору вяліся восенню і зімою па два разы ў тыдзень. Малады рэгент І. Шум працаваў пад наглядам псаломшчыка Міхайлаўскай царквы Я. Шчадрова. Паступова ўзровень хору павышаўся.

Вялікай дапамогаю ў навуцы спеваў стаў, купленны за 80 рублёў інструмент -- *мелодикон*. Пры яго пакупцы не абышлося без "спонсараў". Былі імі, між іншым, памешчык Н. Кастальскі, суддзя М. Андраянаў, князь Ф. Шахмамецеў.

Два гады пасля заснавання хору, зімою 1882 г., а. Тарановіч пісаў у летапісе, што і рэгент хору, і харысты не атрымліваюць за сваю працу ніякай фінансавай узнагароды. "Малалікасць і параўнаўчая беднасць прыхода даюць мала надзеі на знойдзенне сродкаў (...)".

Хор, аднак, існаваў і нават дайшоў да пэўнага ўзроўню. Аб гэтым сведчыць летапісны запіс з візіту Літоўскага ўладыкі Аўраама, які 30 жніўня 1882 г. наведаў Міхайлаўскі храм у Бельску: "Хор мясцовых спевакоў пад кіраўніцтвам селяніна вёскі Праневічы Івана Осіпова Шума, які праспяваў сустрэчу і малебен, відаць выклікаў у ўладыкі добрае ўражанне".

Аб далейшай працы "праневіцкага" царкоўнага хору не ведаем амаль нічога. У асноўным быў гэта, мабыць, штонядзельны ўдзел у багаслужбах.

**МІКОЛА САХАРЭВІЧ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЦІ ЛОПУХ — ТОЛЬКІ ПУСТАЗЕЛЛЕ?

У кожным раёне нашай краіны можна сустрэць зараснікі лопуху — буйнай травяністай расліны, лісце якой часта дасягае паўметровай вышыні. Асабліва любіць лопух вялікі (*Arctium Lappa* L.) засмечаныя месцы і з прыемнасцю прыжываецца на сметніках, пустырах і побач з жыллём чалавека, запускаючы глыбока ў зямлю свае сакавітыя ды мясістыя разгалінаваныя карані.

Людзі, якія нічога не ведаюць пра цудоўныя якасці гэтай расліны, часта, не задумваючыся, бязлітасна збіваюць палкай яго лісце, з пагардай аддзіраюць прыліпшыя да вопраткі калючкі.

Аднак,той, хто ўмее па-сапраўднаму цаніць дары прыроды, позняй восенню, перад самымі прымаразкамі, або вельмі ранняй вясной выкопвае карані лопуху. Ачышчаюць іх з зямлі, старанна мыюць, рэжуць на часцінкі таўсцейшыя кавалкі і сушаць. Маюць быць гэта карані раслін, якія яшчэ не цвілі, аднагадовых. Атрымліваецца такім чынам сыравіна корань лопуху — *Radix Bardanae* (syn. *Radix Arctii*).

У народнай медыцыне выкарыстоўваецца таксама лісце лопуху — *Folium Bardanae*, а таксама плады лопуху — *Fructus Bardanae*. Са свежага кораня робіцца таксама сок — *Succus Bardanae*.

Здаўна было вядома, што карані лопуху гэта вельмі добры мачагонны і жарапаніжаючы сродак. Водныя ці спіртныя яго экстракты рэкамендаваліся пры некаторых хваробах нырак, скурным туберкулёзе і экземе. Лопух з стручкамі фасолі і лісцьмі чарніц прымянялі пры цукровым дыябеце (цукрыцы), а настойка кораня на міндальным масле набыла шырокую папулярнасць пад назвай „рапейнае масла" як цудоўны сродак для ўмацавання і росту валос.

У Расіі, напрыклад, быў вядомы арыгінальны спосаб лячэння рэўматызму. Маззю з кораня лопуху на каровіным ці свіным тлушчы хворы націрае суставы, кладзецца ў лазні на нары і там на працягу паўгадзіны пры ўсё мацнейшай пары выпівае невялікімі глыткамі цёплы адвар кораня лопуху. Праз 15—20 мінут на целе выступае пот, але хворы застаецца на нарах, пакуль яго цела не стане сухім. Пасля суставы ізноў націраюць маззю, абкладваюць іх ватай і забінтоўваюць нанач. У часе парнай працэдуры і пасля лазні п'юць чай з кветак, траў і ягад.

Што датычыць лісця лопуху, дык кампрэсы з яго добра дапамагаюць пры падагры, свежым лісцем абкладваюць хворых з высокай тэмпературай, а, змазанае смятанай, прыкладваюць да месц на скуры, дзе выступіла запаленне.

Адвар з лісця п'юць як чай пры некаторых пухлінах, нарывах, фурункулах, лішаях. Рэкамендуецца ён пры залатусе, ліхарадцы, вадзянцы, хваробах печані, хранічных запорах.

Пры скурных захворваннях лісце лопуху найлепш прымяняць у выглядзе мазі, якую няцяжка падрыхтаваць самому ў хатніх умовах, вядома, атрымаўшы дазвол лекара. Дзеля гэтага трэба сумесь, якая складаецца з лопуху, кветак рамонку, кораня капытня і травы іван-чаю (усяго бяруць па 20 грам), варыць 10-15 мінут у чатырох шклянках вады, тады дадаць сталовую лыжку каровінага масла і дзве шклянкі моцнага адвару сеннай трухі, ізноў варыць, пакуль не загусцее, пасля чаго працадзіць і змяшаць з роўнай колькасцю гліцэрыну.

У некаторых краінах лопух перастаў лічыць пустазеллем і пачалі яго ўводзіць у культуру, паколькі карані яго, багатыя бялкамі, тлушчамі і вугляводамі, вельмі карысныя і могуць выкарыстоўвацца для падрыхтоўкі разнастайных вырабаў. Так, напрыклад, вельмі смачнае кісла-салодкае павідла. Вараць яго так. Уліваюць у паўлітра вады чатыры чайныя лыжкі эсенцыі воцату. Сумесь награваюць да кіпення, кладуць раздробленыя карані лопуху і вараць 2 гадзіны да загушчэння.

### АДВАР З КОРАНЯ ЛОПУХУ

2—3 лыжкі раздробленага кораня заліць 2 шклянкамі цёплай вады і падаграваць да кіпення. Варыць паволі пад покрыўкай 3 мінуты. Настойваць 15 мінут, працадзіць. Піць па 1/3—1/2 шклянкі 2—3 разы ў дзень пасля яды пры катаральных станах страўнікавага тракта, печані і жоўцевых шляхоў, а таксама пры парушэнні абмену рэчываў.

Знешне гэты адвар можна выкарыстоўваць для кампрэсаў і прамывання пры скурных хваробах.

### ЗЁЛКІ ПРЫ КАМЕННЯХ У НЫРКАХ

Змяшаць па 50 г раздробленага кораня лопуху, зёлак маруны пахучай (marzanki wonnej — *Asperula odorata* L.) і зёлак хвашчу, а таксама па 25 г лісця крапівы, кветак бузіны чорнай і пладоў бузіны чорнай. Заліць 2 лыжкі зёлак 2 шклянкамі цёплай вады, падаграваць да кіпення і варыць няспешна пад покрыўкай 3 мінуты. Настаяць 10 мінут і працадзіць у тэрмас. Піць па 1/2—2/3 шклянкі 2—3 разы ў дзень паміж ядою як сродак мачагонны і ачышчаючы кроў.

### ГАТОВЫЯ ПРЭПАРАТЫ

**Сок з свежага кораня лопуху – „Succus Bardanae" („*Herbapol*")** прымаюць па 30—60 кропляў у кілішку вады 2—4 разы ў дзень пасля яды пры запаленчых станах страўнікавага мачавога і жоўцевага трактаў, пры нязначных захворваннях печані, пры парушэннях абмену рэчываў і некаторых хваробах скуры. Гранулат **Betagran**, вадкасці **Betasol** і **Seboren** — прэпараты, якія выпускае „*Herbapol*" і ў склад якіх уваходзіць корань лопуху. Дапамагаюць яны пры скурных хваробах і лысенні.

ЭСКУЛАП

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

*Працяг са стар. 3*

Авёс лічыцца далей галоўнай фуражнай збожжавай культурай. Сяляне з Нараўскай акругі сеюць яго на плошчы 827 гектараў. Ён у мінулым займаў надта вялікія пасяўныя плошчы. Яшчэ і зараз выразна адчуваецца традыцыя „падлесных" сялян да значных пасеваў аўса, між іншым, у Васьках, Крыўцы, Гарадзіску, Прыбудках, Гайдукоўшчыне і Рыбаках.

Ячмень займае ўсяго 342 гектары ворыва. Найбольш сеюць яго ў Нараўскай і Ласінскай акругах. Апрача яравога ячменю сеецца таксама і азімы.

З іншых збожжавых культур неабходна адзначыць збожжавыя мяшанкі. Яны тут займаюць плошчу ў амаль 900 гектараў.

Выключна важнае месца сярод усіх сельскагаспадарчых культур займае бульба. Нельга пераацаніць значэнне бульбы ў адкорме хатняй жывёлы, як і ў прыгатаванні ежы. Пасевы яе займаюць 990 га. Сярэдні ўраджай складае 200 цэнтнераў з гектара.

Асноўнымі гатункамі з'яўляюцца бульба белая і чырвоная. Хуткаспелых гатункаў сустракаецца мала. Больш устойлівая супраць гніцця падчас зімовага перахоўвання чырвоная бульба займае найбольшыя плошчы. Яна вырошчваецца на цяжкіх суглінкавых, а таксама на сярэдніх і нават дзе-нідзе на лёгкіх глебах. Бульба — культура працаёмкая. Апрача заарання глебы, трэба яе абворваць (у „загоны" сеюць яе мала). Даволі павольна праходзіць прымяненне навейшай тэхнікі пры ўборцы.

Іншыя прапашныя культуры не атрымалі шырэйшага распаўсюджання. Дзенідзе ля вёсак сустракаюцца невялікія пасевы кармавой морквы, буракоў і рэпы.

Урэшце, неабходна хоць коратка затрымацца над такой культурай, як лубін. Пасевы яго маюць велізарнае значэнне ў севазвароце. Ён можа вырошчвацца на кожных глебах, ад найцяжэйшых да найлягчэйшых. Як зялёны навоз (лубін горкі) ён высяваецца і заворваецца тут, галоўным чынам, пад азімыя культуры. Шмат сеюць яго ў Трасцяніцкай акрузе, у Тынявічах Вялікіх. Адзін гектар пасеваў лубіну на сярэдненеўраджайных глебах у Нараўскай гміне дае каля 500 цэнтнераў зялёнай масы.

З кармавых траў канюшыну сеюць у Трасцянцы, а віку — у Ласінцы. Сеюцца яны найчасцей дзеля атрымання кармоў на зіму. Пасля іх уборкі глебы найчасцей заворваюцца пад азімыя культуры.

*(Працяг будзе)*

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# ЗЛАМАНЫ НАШЫ ГОРДАСЦЬ І ГОНАР

Мае праціўнікі могуць гаварыць пра мяне па-рознаму, згадзіцца аднак мусяць з маім артыкулам „Зломаны венік" (36 н-р „Нівы"), дзе я трапна прадбачыў як пройдуць апошнія парламенцкія выбары сярод нас — беларусаў на Беласточчыне. Людзі пайшлі галасаваць на Цімашэвіча, мала ўвагі адводзячы сваім, беларускім кандыдатам у Сейм і Сенат. Гэта наша трагедыя, што адкідаем свой родны хлеб, але ў сітуацыі, калі маладыя бацькі на вёсках вучаць ад калыскі сваіх дзяцей цокаць толькі па-польску, такія паводзіны мяне не здзіўляюць. Старая прымаўка нядарам гаворыць, што ніхто горш чалавеку не зробіць, як ён сам сабе. Нашы людзі абыякава адносяцца да роднай спадчыны, да „Нівы", да БГКТ. Што ж — вольнаму воля.

Хачу яшчэ некалькі слоў адвесці перамозе „лявіцы" ў выбарах. Гэты вынік ацэньваю станоўча. Сённяшняя „лявіца", на маю думку, гэта не сталіністы, толькі партыя заходняга тыпу. І мо гэтая „лявіца" прытрэ крыху рогі салідарнікам, якія перасталі пазнаваць сваіх сімпатыкаў. Цяпер народ можа сабе выбраць урад такі, які яму падабаецца, адкідаючы той, які сябе не апраўдаў, так, як гэта мела месца з урадамі „Салідарнасці".

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК




ЧАСТКА XVIII

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Значную цікавасць прадстаўляюць галасы двух настаўнікаў сярэдняй школы ў Менску. Настаўнікі гэтыя маюць прыблізна па трыццаць гадоў. Адзін з іх выкладае гісторыю, другі — геаграфію. Абодва цікавяцца палітыкай, хаця не належаць да якой-небудзь партыі.

„Я, — гаворыць настаўнік гісторыі, — знайшоўся ў свайго роду тупіку. Ва ўсіх школах у Беларусі на працягу многіх гадоў клаўся вялікі націск на гісторыю Расіі і Савецкага Саюза, а не на гісторыю Беларусі. Беларусь трактавалася як адвечная арганічная частка Расіі. Думка пра нейкія там беларускія войскі нікому ў галаву не прыходзіла. Так выкладалі нам ва універсітэце, так выкладалі мы моладзі. З такім жа падыходам былі напісаны ўсе падручнікі і ўсе праграмы. Вы ўяўляеце, як цяжка сёння павярнуць усё ў другі бок. Еднасць з Расіяй сядзіць у нашай падсвядомасці і ў нашай крыві. Мне здаецца, што сённяшнія спробы супрацьставіць Беларусь Расіі закончацца крахам. Калі не з Расіяй, дык з кім? З Украінай, якая як з агнём гуляе з атамнай зброяй і невядома да якіх дзвядзе вынікаў? А можа з Польшчай, якая развальвае помнікі, узведзеныя загінуўшым савецкім воінам, а яшчэ горш — выкопвае экскаватарамі косці чырвонаармейцаў, якія аддалі жыццё за свабоду Польшчы? Вы гаворыце, што Расія заўсёды была нелаяльнай і нявернай у адносінах да сваіх саюзнікаў? Дык што ў гэтым аспекце сказаць аб Польшчы? А можа заключыць вайсковы саюз з Германіяй, для якой заўсёды славянскія народы былі толькі гноем, якім можна было ўдобрыць нямецкую гаспадарку?

Нам трэба дамаўляцца з гэтым суседам, які праверany гісторыяй. А такім народам з'яўляюцца рускія, з якімі нам заўсёды было, ёсць і будзе па дарозе. Вы, мабыць, наслухаліся тут паранаічных ідэй Пазняка, які завядзе Беларусь у бездань. Ведайце, што беларускі народ пойдзе той дарогай, якой ішоў ад вякоў, дарогай еднасці з рускімі. А вы там, у Польшчы, як хочаце, так думайце".

Другі размоўца — настаўнік геаграфіі — на справу вайсковага саюза Беларусі з Расіяй глянуў з зусім іншага пункту:

„Я каталік, калі прызнацца, дык я не ведаю, ці я паляк, ці беларус. Калі нават прыняць, што я беларус, дык у маім сэрцы заўсёды звініць нейкая нотка сімпатыі для Польшчы і польскага народа. Што там гаварыць, і сёння сотні тысяч беларусаў паляпшае сваё жыццё дзякуючы таму, што ездзяць на гандаль у Польшчу. Гаворыцца, што ў Польшчы крызіс. Дай Бог нам такі крызіс, які ёсць у Польшчы! Так, гэта праўда, што сотні гадоў мы былі разам з Расіяй. І да чаго мы дайшлі дзякуючы гэтай еднасці? Я ўжо не буду гаварыць аб матэрыяльным жыцці, бо ўсім вядома, якое яно ўбогае. Але паглядзіце на беларускую духоўнасць. Беларуская мова — забітая, беларуская нацыянальная свядомасць — забітая, беларускі гонар — забіты. Адным словам, у Беларусі няма нацыянальнага жыцця. Пазваніце на любы нумар тэлефона ў Савет Міністраў. Ведайце, што нідзе вам не адкажуць па-беларуску. Усюды чаканяць па-руску. Дык такі мае быць нацыянальны ўрад?! А чаму яно так ёсць? А таму, што Расія ад вякоў сваю гаспадарчую і вайсковую дамінацыю выкарыстоўвала да забівання беларускай духоўнасці ў беларусаў. Думаю, што сённяшні вайсковы саюз Беларусі з Расіяй будзе служыць гэтай жа мэце. Я амаль тры гады служыў у Савецкай Арміі. На працягу гэтых трох гадоў я ніколі не чуў аб Беларусі, затое тысячы разоў чуў аб Расіі. Вось бачыце, як выглядае свабодная айчына савецкіх народаў. Была вялікая руская дамінацыя. І думаю, што так яно будзе і ў будучым, калі толькі Беларусь дазволіць надзець на свае рукі наручнікі вайсковага саюза. Мне здаецца, што Беларусь павінна разам з Польшчай і іншымі краінамі ўвайсці ў НАТО. Думаю, што гэта структура не будзе знішчаць беларускай духоўнасці".

АЛЕСЬ БАРСКІ

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 8 ЛІСТАПАДА

16.10 Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 4-ы клас. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Складчына. Інфармацыйна-забаўляльная праграма. 16.55 Спасціжэнне ісціны. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Парады агароднікам. 18.40 Беларускія тавары на Пазнанскім кірмашы. 19.05 Вызваленне: 1943-1993. Дрыбін. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 „Фенікс". Тэлесерыял. 22.05 Тамара Нікалаева на сцэне і ў жыцці. 23.00 Складчына. Інф.-заб. праграма.

### АЎТОРАК, 9 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Радасная душа". Фільм-канцэрт. 7.50 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 ТБ — школе. Гісторыя Беларусі. 4-ы клас. 8.20 „Фантазія". Кінанарыс. 8.30 Адкрыццё сесіі Вярхоўнага Савета. 11.30 „Фенікс". Тэлесерыял. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Вязень замка Іф". Маст. Фільм. 1-я серыя. 13.45 „Утрапёная Айседора". Фільм-канцэрт. 14.20 „Нов і К"-топ-10. 15.20 Тэлебіржа. 15.30 ТБ — школе. Выяўленчае мастацтва. 3-ці клас. Перадача настрою ў творах жывапісу. 15.50 „Бюро знаходак". Мультфільм. 16.30 „Празрыстае сонца восені". Дак. фільм. 17.05 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Футбол. 18.45 Эканамічная хваля. Хто прыйдзе заўтра ў народную гаспадарку Беларусі? Прамая лінія. 19.40 Калыханка. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 На сесіі Вярхоўнага Савета.

### СЕРАДА, 10 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Праграма перадач. 7.25 „Букавінскія карцінкі". Фільм-канцэрт. 7.50 ТБ — школе. Выяўленчае мастацтва. 3-ці клас. 8.20 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.15 Тэлевізійны клуб „Гаў-гаў". 9.30 Кампазітары Беларусі. Д. Смольскі. 10.15 „Бусляня". Кароткаметражны фільм. 11.05 Футбол. 11.50 Гізэла Папова. Фільм-канцэрт. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Вязень замка Іф". Маст. фільм. 2-я серыя. 13.45 „Воўк і сямёра казлянят", „Залаты волас". Мультфільмы. 14.10 „Звычайныя цуды". Фільм-канцэрт. 14.55 Для школьнікаў. „Гімназія ў пошуках шляхоў". 15.35 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэааўдыё. 16.30 „Сябры і ворагі доктара Бутэйкі". Дак. фільм. 17.00 „Арызонт". Фільм-канцэрт. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны. (Гомель). 18.10 Карамболь. Ток-шоў. 18.40 ТА „Рэха". Рэйтынг. 19.10 Мост. Культурна-асветніцкая праграма. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дамскі кравец". Маст. фільм. 22.10 На сесіі Вярхоўнага Савета.

### ЧАЦВЕР 11 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Небыліца". Фільм-канцэрт. 8.25 Неверагодны заклад, ці сапраўднае здарэнне, што паспяхова завяршылася сто гадоў таму". Маст. фільм. 9.40 Карамболь. Ток-шоў. 10.10 ТА „Рэха". Рэйтынг. 10.40 „На схілах старажытнага вулкана", „Дубрава". Дак. фільмы. 11.25 Кампазітары Беларусі. Э. Зарыцкі. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Вязень замка Іф". Маст. фільм. 3-я серыя. 14.15 „У Мумі-дол прыходзіць восень". Мультфільм. 14.30 Супроцьстаянне. Маральна- прававая праграма. 15.20 „Музыка працягваецца..." Фільм-канцэрт. 15.45 Тэлебіржа. 15.55 ТБ — школе. Геаграфія Беларусі. 9 клас, Запаведнікі і заказнікі Беларусі. 16.30 „І не толькі пра каханне..." Тэленавела. 17.00 „Самотныя". Дак. фільм. 17.20 Зачытайце маё пісьмо... 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Футбол. Зборная Беларусі — зборная Украіны. 18.45 Да дня незалежнасці Польшчы. Рэпартаж з адкрыцця нацыянальнай выстаўкі „Польшча-93". 19.00 Працяг футбольнага матча. 19.45 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.40 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок".

### ПЯТНІЦА, 12 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Песні маладосці". Фільм-канцэрт. 8.00 ТБ — школе. Геаграфія Беларусі. 9-ты клас. 8.30 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.25 Футбол. Зборная Беларусі — зборная Украіны. 10.40 Кампазітары Беларусі. Юрый Семяняка. 11.45 Роднае слова. Тэлечасопіс. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 Якуб Колас. „Імяніны". Спектакль. 14.10 „Жывыя струны". Тэлевізійны фільм. 14.45 Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоў-конкурсу ў Мазыры. Частка першая. 15.35 „ПІК". Відэаканал для падлеткаў. 16.30 „Пейзаж пасля бітвы". Дак. фільм. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны. Магілёў. 18.10 Гандбол. 18.45 Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Прамая лінія. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Шчыра Ваш". Маст. фільм. 22.15 На сесіі Вярхоўнага Савета.

### СУБОТА, 13 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Шчыра Ваш". Маст. фільм. 9.00 Паказвае Віцебск. 10.00 Тыдзень планеты. 10.15 Шашачны клуб. 10.45 Урокі здароўя. 11.10 Незвычайны кірмаш. Праблемы працаўладкавання. 11.40 „Мой маленькі поні". Мультфільм (ЗША). 12.05 Хрысціянская праграма. 12.40 Гандбол. 13.20 Кампазітары Беларусі. Сустрэча з А. Багатыровым. 14.00 „Музыка шкла". Кінанарыс. 14.10 Тэлебом. Гала-канцэрт пераможцаў шоўконкурсу ў Мазыры. Частка 2-я. 15.15 Спартыўны стыль. Веласпорт. 15.45 Запрашаем на вячоркі. 16.40 Паміж намі, жанчынамі. 17.40 Залаты рынг. Шоўпраграма. 18.40 „Нов і К"-топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „8 1/2" Маст. фільм (Італія). 23.05 Міс „Мадэль Беларусі". Прэзентацыя першага беларускага конкурсу.

### НЯДЗЕЛЯ, 14 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік Рык Рэнер. 8.00 „Дамскі кравец". Маст. фільм. 9.25 Для школьнікаў. Пра шахматы і шахматыстаў. 9.55 Вас выклікае Спартландыя. Таварыская сустрэча школьнікаў Беларусі і Каракалпакстана. 11.15 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 11.40 Конны спорт. 12.55 Аўтарскі канцэрт кампазітара А. Багатырова. 15.05 „Прыгоды капітана Урунгеля". Мультфільм. 15.25 „Салон прыгажосці". Маст. фільм. 16.50 „Гінесшоў". 17.20 Клуб аматараў фальклору. „Радавод". 18.20 З панядзелка... 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 „Войскі асобага прызначэння". Тэлевізійны фільм (Аўстралія). 20.35 „Чатыры прыгоды Рэнет і Мірабель". Маст. фільм (Францыя). 22.10 „Каскад". Кантакт, інфармацыя, рэклама. 22.25 „Відзьма-нявідзьма". Навіны кіна-відэа-аўдыё.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Ужо пару разоў сніцца мне вялікі будынак, ні то разлеглая фабрыка, ні то шматпавярховая крама, у якой шмат вучняў-практыкантаў. Побач з гэтай будынінай ёсць гатэль-інтэрнат. У апошнюю ноч мне прыснілася, што я ў гэтым гатэлі рыхтую абед. Адкрываю печку і ўкладаю туды вялізнага індыка (ледзь улез у печку), запальваю газ. Спачатку агню замнога, мяса прыпальваецца, дык я рэгулюю полымя і пакідаю кухню недзе на гадзіну. Потым у сне я хаджу не вельмі дакладна апранутая (нашу на бёдрах нейкую прасціну, я ў штанах, зверху якаясьці цесная блузачка) па паверхах. Усё памятаю, што трэба вярнуцца, каб не спаліўся індык.

Урэшце выходзім на двор (са мною нейкія вучні). Тут канец горада, перад намі парослае травой і кветкамі разлеглае поле, якое цягнецца аж да гарызонту. Кветкі вельмі прыгожыя — бачу вялікія белыя рамонкі, палявыя кветкі вельмі буйныя, прыгожыя, іх вельмі многа і ёсць такія віды, якіх не ведаю. Я пачынаю іх збіраць у вялікі букет. Праўда, у іх сцяблінкі, аказваецца, кароткія, але букет пышны, сцяблінкі сакавітыя, свежыя. На гэтым сон скончыўся.

**Міра**

Міра! Твой сон сведчыць аб тым, што чакае цябе нейкае вялікае святкаванне. Аб гэтым сведчыць той вялізны індык, якога ты ўсадзіла ў печку. Але каб гэта свята адбылося, ты мусіш каля яго добра пахадзіць. Праўдападобна, будуць нейкія выдаткі (ты бегала па паверхах паўголая), можа пры гэтым вынікнуць нейкая хвароба (ты на бёдрах была падвязана прасцінай), але, мяркую, што ты дойдзеш да сваёй мэты. Аб гэтым гаворыць не толькі індык, якога ты пякла вельмі асцярожна, але і поле, парослае прыгожымі кветкамі і травой. А асабліва той пышны букет, які ты сабрала з гэтага поля.

**АСТРОН**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4227. Канстанцін Авярчук (Пасталова) | — 50.000 зл. |
| 4228. Ян Анішчук (Пасталова) | — 20.000 зл. |
| 4229. Канстанцін Янушкевіч (Пасталова) | — 20.000 зл. |
| 4230. Мікалай Суліма (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4231. Мікалай Нікалаюк (Гайнаўка) | — 150.000 зл. |
| 4232. Ахвяраванні, сабраныя ў час беларускіх фэстынаў у Гайнаўцы і Нарве | — 1.203.050 зл. |
| 4233. Валянціна Грыка (Старое Ляўкова) | — 100.000 зл. |
| 4234. Юры Балтрамюк (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4235. Юры Зюзя (Варшава) | — 100.000 зл. |
| 4236. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 4237. Славамір і Гражына Бароўскія (Беласток) | — 50.000 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. экіпаж на рысорах, 3. капкан, 5. калючая зброя, 7. думка пра жаданае, 9. прыток Дуная, 10. прыналежнасць да ліку грамадзян нейкай дзяржавы, 11. кароткае апавяданне са смешным зместам, 12. сталіца Багамскіх астравоў, 14. від папугая. 16. мястэчка на Гродзеншчыне, 17. узор.

**Вертыкальна:** 1. рака ва Усходняй Сібіры, 2. вага упакоўкі, 3. дзве штукі, 4. асобная расліна, 6. стральба, якая страляе з дапамогай пістона, 8. паведамленне аб выкананні, 9. рака ў ЗША, якая аддзяляе Джорджыю ад Паўднёвай Караліны, 11. імя жонкі Джона Кенэдзі, 13. мужчынскае імя, 14. пакаранне, 15. не цела.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 38 н-ра:** **Гарызантальна:** Каліта, Спаскі, расход, неба, Сена, трапасфера, шпак, Дака, ракако, атрута, карова.

**Вертыкальна:** каянне, тара, спод, Кіруна, схаластыка, батрак, серада, шпінат, каліва, рата, кока.




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## ЧЫМ ХАРЧУЮЦЦА РАДНЫЯ Ў БЕЛЬСКУ?

Ян Радкевіч, былы намеснік старшыні Гарадской рады Бельска, назваў радных Арсеня Артысевіча і Васіля Ляшчынскага палякаедамі.

-- Не ведаю чым харчуецца Артысевіч, -- сказаў радны Ляшчынскі, -- але ў мяне язва (wrzody żołądka) і мушу прытрымлівацца строгай дыэты.

На язву, прызнаюць гэта нават лекары, добры яшчэ чысты спірт.

## ТОСТЫ

Мы размаўляем аб усім добрым, чыстым, светлым. Я прапаную тост за ўсё чорнае. Давайце вып'ем за тое, каб у імяніннніцы быў муж у чорным касцюме з чорным дыпламатам, каб у яе была чорная „Волга", на якой будзе яна ездзіць адпачываць на Чорнае мора і каб яна ела чорную ікру і піла чорную каву.

* * *

Мы сабраліся тут дзеля таго, каб выпіць... Дык давайце вып'ем за тое, што мы тут сабраліся!

* * *

Давайце вып'ем за добрых людзей: нас так мала засталося!







*Малюнак В. Дудкі*

## ПРОСТА АНЕКДОТ

— Дзядзька Ігнат, як ваша здароўе?

— Дзякуй! Хоць мне і пад семдзесят, а здароўя не страціў. На гародзе ў мяне ляжыць камень, якога трыццаць гадоў таму не мог падняць і цяпер не магу.

* * *

Івана выбралі старшынёй.

— Шкада мне цябе, Іване, — кажа яму кум.

— Чаму?

— Ды вось ты дагэтуль быў добрым працавітым гаспадаром, а цяпер ты зрабіўся гультаём, п'яніцай і прападзеш за нішто.

* * *

Спаткалі беларуса разбойнікі. Адзін кажа:

— Зарэжам.

Другі кажа:

— Павесім.

А беларус:

— Рабіце, — кажа, —людзі добрыя, як лепей.

* * *

— Дзіўна! Ты яшчэ дурнейшы, за мяне...

— Нічога тут дзіўнага, я ж за цябе старэйшы.

* * *

У купца.

— Якую хочаце труну? Кляновую, дубовую, ці бляшаную?

— Якая лепшая?

— Усе дужа добрыя, але бляшаная будзе наймацнейшая і найбольш карысная для нябожчыка.

Падборку зрабіў **ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**

## ЖЫЦЦЁВЫЯ ВЫСНОВЫ

Не забывайцеся, што белае застаецца белым і ў цемры.

* * *

Грошы не даюць шчасця, але часам аблягчаюць жыццё.

* * *

Не кожная маці любіць сваіх дзяцей.

**АЎРОРА**




*Малюнак М. Шаўцова*

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(Праця г. Пачатак у 40—44 н-рах)*

### ВОДНЫЯ ІСТОТЫ

#### Лазнік

Гэтая пачвара вядзецца ў лазнях, што вынікае з самое назвы, а таксама ў ванных пакоях, душавых і басейнах. Лазнік ніколі не апранаецца. Звычайна мае выгляд маленькага дзядка з доўгай барадою, якою прыкрывае свой магутны, заўсёды ўзбуджаны чэляс. Жыве ў вентыляцыйных шахтах, а калі з'яўляецца на людзях, то часцей за ўсё выдае сябе за масажыста або сантэхніка. Характар мае надзвычай юрлівы, і адрозніць яго ад сапраўднага масажыста або сантэхніка вельмі цяжка, бо адзінае, пра што Лазнік умее гаварыць — гэта палавыя стасункі. Аматары лазні не раз бачылі яго, але хто запомніць маленькага сівога доўгабародага дзядка ў вязанай лыжнай шапачцы. Да таго ж, разглядаць у лазні незнаёмых — не вельмі прыстойна. Калі ў чыста мужчынскае кампаніі Лазнік паводзіць сябе нейтральна, то пры з'яўленні жанчын насцярожваецца. Ён сочыць за тым, каб лазня, дзе ён жыве, выкарыстоўвалася па сваім прамым прызначэнні — сапраўды, каму прыемна, калі ў доме госці пачынаюць паводзіць сябе па-свінску. У падобных выпадках Лазнік і выяўляе ўсю сваю моц, але помста яго распуснікам досыць своеасаблівая.

Вось што здарылася з дзевяцікласніцай Ч., якая пасля школьных заняткаў замест таго, каб ісці дахаты вучыць урокі, разам з настаўнікамі фізкультуры, крэслення і вайсковай справы паехала ў лазню спарткомплекса „Раўбічы", што пад Менскам. Трэба адразу сказаць, што школьніца Ч. вызначалася неспатольнасцю ў адносінах з мужчынамі: у парыльні распусныя настаўнікі хацелі кінуць жэрабя, каму на сёння дастанецца дзяўчына, але тая, да радасці настаўніка фізкультуры, настаўніка крэслення і настаўніка вайсковае справы запэўніла, што адужае ўсіх, але толькі па чарзе, бо сарамлівая. Зрабіўшы па чарзе сваю справу, настаўнік фізкультуры, настаўнік крэслення і настаўнік вайсковай падрыхтоўкі пайшлі ў басейн, каб крыху адпачыць і расслабіцца, але неўзабаве пачулі пах чагосьці палёнага. Падумаўшы, што недзе замкнула праводку і загарэлася ізаляцыя, яны пабеглі ў душавую, адкуль ішоў пах, дзе і знайшлі школьніцу з падкладзенымі пад клубы ночвамі. Ужо ў рэанімацыі, пасля таго як Ч. апрытомнела, расказала яна наступнае: калі сышоў настаўнік вайсковай падрыхтоўкі, у душавой з'явіўся аголены, з надзвычай вялікім чэлясам незнаёмы дзядок у вязанай лыжнай шапачцы на галаве і, дастаўшы з-пад шапачкі два прэзэрватывы, абодва надзеў на чэляс. Следам дзіўны дзядок дастаў прышчэпку для бялізны і зашчаміў сабе нос. „А прышчэпка нашто?" — спыталася дзяўчына. „У мяне алергія на пах палёнай гумы!.." — злосна адказаў дзядок. Што адбылося далей, дзяўчына не памятае, бо самлела.

Помста Лазніка мела нечаканыя наступствы: гісторыя атрымала вялікі розгалас на ўсю школу, і неўзабаве лазня спарткомплекса „Раўбічы" ўжо не магла задаволіць попыт школьніц і настаўніц, якія б жадалі там памыцца. Лазню зачынілі спецыяльным загадам дырэктара спарткомплекса пасля таго, як ён злавіў у чарзе сваю жонку, але злаcліўцы сцвярджаюць, што ніякага Лазніка не было, а пачвару ўдаваў начны вартаўнік лыжнага трампліна, у якога адміністрацыя спарткомплекса нібыта бачыла мачальную бараду і пафарбаваную ў цялесны колер міліцэйскую дубінку.

*Працяг будзе)*

Падрыхтавалі **ФРАНЦІШАК ХЛУС І МАРЦІН ЮР**




Дарагое Сэрцайка! У 42-ім нумары "Нівы" я прачытала пра нешчаслівую дзяўчыну (яна была без маці, ды і муж біў яе), якая пры людзях рабіла выгляд, што жыццё яе надта шчаслівае, увесь час яны з мужам прытуляліся і цалаваліся. Навят сяброўка, якая пісала пра яе, ужо не ведала, ці шкадаваць яе далей, ці не, бо, відаць, ёй такія паводзіны не былі прыемныя. А ты, Сэрцайка, параіла шкадаваць тую дзяўчыну, бо рабіла яна гэта з бяды, а не з распусты.

То можа ты і мне параіш тое самае, не ведаю. Мая сяброўка на жыццё ў бацькоў, праўда, не наракае, але з мужам у яе бывае па-рознаму. Дайшло ўжо нават да таго, што аднойчы ўцякла без граша з дому. А паколькі няма ў гэтым горадзе нікога з яе блізкіх, дык жыла ў чужых літасцівых людзей. Аж тры месяцы бадзялася па людзях з дзіцём і я тады нават падумала, што магла б паехаць да сваіх бацькоў, няўжо ж бы яны яе і ўнука не прынялі?! Відаць, саромелася, не хацела прызнавацца, што кепска трапіла, бо тады прызнала б бацькам рацыю. Яны яе раней асцерагалі перад гэтым хлопцам, што хуліган, а яна ўсё: кахаю ды кахаю.

Смешнае тое, што ўсім вядомы гэты факт, ды і тое, як ён лупіў гэтую "каханую" дзяўчыну. Лупіў і абзываў, а пасля бегаў па хатах, ды пытаў, дзе б гэта яна магла схавацца ад яго. І, думаеш, не знайшоў?! А як жа! Прыехаў, на каленях стаяў перад ёю, абяцаў, што ў кілішак не загляне. Толькі каб дахаты вярнулася. Вярнулася. А я чула, што ізноў яе б'е.

І вось нядаўна мы былі ў адной кампаніі на імянінах. І вельмі мне не спадабаліся паводзіны гэтай сяброўкі. Увесь час дэманстравала яна без патрэбы сваё цела. Але як? То падняла блузачку і падцягнула спаднічку (так, каб усе бачылі, што з такіх спраў яна праблем не робіць). Пасля задзерла спадніцу ажда... і паказала нагу, ды стала расказваць, як яе малы сынок калісь улез ёй пад спаднічку і гладзіў там, дзе рабіць гэтага не павінен. А потым яе муж усадзіў ёй руку пад блузку на плячах (папрасіла, каб яе падрапаў), а яна падсумавала: "Дабіраецца да мяне!"

Ну, і каму гэта было патрэбна?! Мне, напрыклад, было проста агідна аглядаць гэта. Іншыя таксама глядзелі на яе ні то як на к..., ні то з літасцю.

А як ты, Сэрцайка, думаеш? Ці варта было літавацца ў гэтым выпадку? Бо мне здаецца, што больш тут было не бяды, а распусты.

**Бася**

Бася! Думаю, што ў гэтым выпадку была бедараспуста (як obiadokolacja). Дзяўчына, несумненна, рабіла гэта, каб даказаць, што яна задаволеная з мужа, а нават з маленькага сынка, што ён яе кахае, бо як жа можна яе не кахаць... Была пры гэтым, аднак, недалікатная, а я б сказала нават, што рубашная. Трэба зусім не мець такту, каб рабіць у кампаніі тое, што можна іншым не падабацца, а нават дражніць некаторых.

**СЭРЦАЙКА**

**Пошта Сэрцайка.**

Мілае Сэрцайка! Нядаўна ў мяне былі імяніны. Сабралася крыху сяброў і сяброўак і было даволі прыемна. Але адна справа мяне бянтэжыць. Сябры і сяброўкі папрыносілі розныя сувеніры, а пераважна такія, якія мне да нічога не прыдадуцца. Парфумы пахнуць не так, як я люблю, памада да губоў -- не мой колер, а дэзадарантаў я зусім не ўжываю. Я ж ведаю, што нават такі выдатак -- ён не на сённяшнюю студэнцкую кішэнь, але калі б ён пайшоў мне на карысць, дык яшчэ было б добра. А так я не змагу скарыстаць з ніводнага падарунка. Каб былі ўсе зламжыліся і купілі адзін добры падарунак, дык мо было б лепш. А мо проста кветкі былі б больш прыемныя.

**Яся**

Яся! Наогул вельмі рызыкоўна даваць у падарунку прадметы асабістага ўжытку. Калі ўжо даваць падарунак, дык трэба ведаць напэўна, што гэта твой улюбёны арамат. Калі памаду -- дык мае быць у адценні тваёй памады. Што датычыць дэзадаранту, дык яго дарыць зусім не выпадае. Тут ужо справа не толькі ў запаху. Даць дэзадарант -- гэта быццам бы намякнуць, што нехта брыдка пахне і патрабуе адсвежыцца. А ты, бачыш, яго зусім не ўжываеш. Супольны падарунак быў бы на месцы, калі б усе твае госці былі з адной кампаніі, а так здараецца рэдка. Можа кветкі (таннейшыя ці даражэйшыя -- на кожную кішэнь) былі б у гэтым выпадку найлепшыя.

**СЭРЦАЙКА**